ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№8 (149) жнівень 2023 год

CATHOLICNEWS.BY

# “Школа Марыі тут, у Браславе”

**Браслаўскі фэст у гэтым годзе прайшоў 18 і 19 жніўня, а тэма яга была – “Марыя — Ахоўніца згоды і супакою”.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*
**Леанід Юрык**, *фота*




Гэтая ўрачыстасць і асабліва папярэднія тры дні былі вельмі насычанымі малітвай. Спытаеце, чаму толькі тры? Магчыма і больш, але маю на ўвазе дні шляху двзюх груп людзей, якія пераадолелі больш 90 км пешшу пад палаючым сонцам, несучы не толькі свае заплечнікі, але і інтэнцыі свайго сэрца і іншых людзей, шчыра молячыся і мужна пераадольваючы цяжкасці пілігрымавання.

Амаль 100 чалавек прынялі ўдзел у пілігрымцы Глыбокае-Браслаў пад кіраўніцтвам ксяндза Мікалая Цехановіча. Да глыбачан далучыліся вернікі з Полацка, Оршы, Мінска, Гродна, Разані. У экстрэмальнай пілігрымцы з Удзела разам з айцом францішканінам Віктарам Мялешкам прыйшлі яшчэ 9 удзельнікаў.

Сёлетняя ўрачыстасць у гонар Маці Божай Валадаркі азёраў распачалася малітвай-даручэннем сем’яў, а сужонкі аднавілі шлюбныя абяцанні.

Вечаровую Імшу для пілігрымаў цэлебраваў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч разам з дапаможным біскупам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрыем Касабуцкім, Апостальскім адміністратарам для католікаў візантыйскага абраду архімандрытам Сяргеем Гаекам. Падчас Літургіі быў уздзелены сакрамант канфірмацыі 70 вернікам з Віцебскай дыяцэзіі.

Малітоўную праграму працягнуў Акафіст да Найсвяцейшай Багародзіцы, які пад кіраўніцтвам апостальскага адміністратара архімандрыта Сяргея Гаека маліліся вернікі ўсходняга абраду. З-за навальніцы і дажджу была адменена працэсія вуліцамі горада, але малітва святога Ружанца адбылася ў касцёле. Апоўначы св. Імшу правёў біскуп Юрый.

Кульмінацыяй урачыстасцяў стала святая Імша ўдзень 19 жніўня на палявым алтары, якую ўзначаліў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі. Урачыстую Эўхарыстыю канцэлебравалі біскупы Алег Буткевіч і Юрый Касабуцкі, архімандрыт Сяргей Гаек, кіраўнік беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё кс. Аляксандр Амяльчэня і шматлікія святары. На Літургіі прысутнічалі прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу ў Рэспубліцы Беларусь і мясцовай улады.

На самым пачатку біскуп Віцебскі прывітаў усіх пілігрымаў, якія пешшу і на роварах прыбылі ў Браслаў, а таксама ўсіх вернікаў з розных куткоў Беларусі і з-за мяжы, запрашаючы да супольнай малітвы.

“Браслаў для кожнага з нас не толькі духоўная школа Маці Божай, але для многіх гэта сэрца нашай сінявокай, упрыгожанай азёрамі Бацькаўшчыны. (...)

Марыя была жанчынай малітвы, таму змагла пераадолець усе жыццёвыя выпрабаванні – малыя і вялікія. Менавіта праз малітву, Марыя кажа, што можна навучыцца глядзець без прадузятасці, бачыць навакольны свет у пазітыўным святле, адмовіцца ад зла і выбіраць дабро. Пілігрымковая наша сустрэча з’яўляецца школай малітвы, а яе плёнам – уменне маліцца. Аб гэтым нагадаў нам св. Ян Павел ІІ, які заклікаў людзей, што шукаюць сэнсу жыцця, да вучобы ў школе Марыі. Яна тут, гэтая школа, у Браславе, бо маліцца – азначае думаць пра Бога з любоўю. Як жа сёння патрэбна гэтам свету любоў...”, — засяродзіў увагу арцыбіскуп Юзаф падчас гаміліі.

Урачыстую Літургію ўпрыгожыў хор, удзельнікі якога прымалі ўдзел у Школе касцельнага спеву пад кіраўніцтвам дацэнта Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі і арганіста мінскай архікатэдры Уладзіміра Неўдаха і арганісткі браслаўскай парафіі Іны Сапун.

Напрыканцы літургіі ардынарый Віцебскі Алег Буткевіч аддаў у апеку ўсю дыяцэзію Маці Божай Валадарцы азёраў, прачытаўшы Акт прысвячэння. Іерарх запрасіў прысутных на ўрачыстасці ў наступным годзе, якія адбудуцца 23-24 жніўня. 2024 год будзе юбілейным – 25 год заснавання Віцебскай дыяцэзіі і 15-годдзе каранацыі абраза Маці Божай Браслаўскай.





















# Сусветныя дні моладзі паказалі: братэрскі свет магчымы!



**“Сусветныя дні моладзі паказалі ўсім, што магчымы іншы свет: свет братоў і сясцёр, дзе сцягі ўсіх народаў лунаюць разам, побач, без нянавісці, без страху, без закрытасці, без зброі!” – сказаў Святы Айцец.**

Падчас агульнай аўдыенцыі ў Зале Паўла VI у Ватыкане, якая прайшла 9 жніўня і стала першай пасля перыяду летняга адпачынку, Папа Францішак падвёў вынікі свайго Апостальскага падарожжа ў Партугалію, катоpae здзейсніў з 2 па 6 жніўня з нагоды 37-х Сусветных дзён моладзі, што прайшлі ў Лісабоне.

Святы Айцец нагадаў, што СДМ сталі першымі пасля перажытай пандэміі каронавіруса і ўспрымаліся многімі як дар Бога. “Мы добра ведаем, што пандэмія сур’ёзна паўплывала на сацыяльныя паводзіны: ізаляцыя часта ператваралася ў закрытасць, а моладзь адчула гэта асаблівым чынам. З дапамогай Сусветных дзён моладзі Бог даў “штуршок” у адваротным кірунку: яны пазначылі новы пачатак вялікага пілігрымавання моладзі па ўсіх кантынентах у імя Езуса Хрыста”, – падкрэсліў Пантыфік.

Папа Францішак заўважыў, што ўдзельнікам форуму было прапанавана паглядзець на прыклад Багародзіцы, Якая ў самы крытычны для Яе момант пайшла з дапамогай да сваёй сваячкі Альжбеты. Ён адзначыў, што Марыя ўказвае шлях наследавання Езуса юнакам і дзяўчатам трэцяга тысячагоддзя, “як зрабіла гэта амаль стагоддзе таму ў Партугаліі, у Фаціме, калі звярнулася да трох дзяцей, даваючы ім пасланне веры і надзеі для Касцёла і свету”.

“Таму падчас СДМ я вярнуўся ў Фаціму, у месца аб’яўленняў, і разам з некаторымі хворымі маладымі людзьмі маліўся Богу, каб Ён аздаравіў свет ад хваробаў духу: пыхі, хлусні, варожасці, гвалту, – усё гэта хваробы духу, а свет хварэе на іх. І мы аднавілі наша прысвячэнне Еўропы і свету Беззаганнаму Сэрцу Марыі. Я маліўся за мір, бо шмат войнаў ідзе ва ўсіх частках свету”, – сказаў Святы Айцец.

Пантыфік адзначыў, што на Сусветныя дні моладзі прыбылі юнакі і дзяўчаты з розных частак свету, у тым ліку з Украіны, якія прывезлі разам з сабой вельмі балючыя гісторыі. “Гэта не былі канікулы, турыстычнае падарожжа і нават не духоўная падзея дзеля самой сябе: Сусветныя дні моладзі – гэта сустрэча з жывым Хрыстом праз Касцёл. Моладзь прыехала, каб сустрэць Хрыста”, – дадаў Папа Францішак.

Папа Рымскі падзякаваў Касцёлу ў Партугаліі за арганізацыю форуму і гасціннасць, выказваючы ўпэўненасць, што падзея дасць яму новыя сілы і дапаможа ў апостальскай дзейнасці.

“У той час, як ідзе змаганне на Украіне і іншых частках свету, а ў пэўных схаваных кабінетах плануецца вайна, Сусветныя дні моладзі паказалі ўсім, што магчымы іншы свет: свет братоў і сясцёр, дзе сцягі ўсіх народаў лунаюць разам, побач, без нянавісці, без страху, без закрытасці, без зброі! Пасланне моладзі было ясным: я пытаюся ў сябе, ці пачуюць яго магутныя гэтага свету? Ці пачуюць гэты юнацкі энтузіязм, які прагне міру? Гэта прыпавесць для нашага часу, і цяпер Езус кажа зноў: “Хто мае вушы, няхай слухае! Хто мае вочы, няхай бачыць!”. Будзем спадзявацца, што ўвесь свет пачуе гэтыя Сусветныя дні моладзі і будзе глядзець на гэтую прыгажосць моладзі, рухаючыся наперад”, – выказаў перакананне Святы Айцец.



# СДМ-2027 пройдзе ў Сеуле

**Наступныя Сусветныя дні моладзі пройдуць у 2027 годзе ў сталіцы Паўднёвай Карэі – Сеуле. Папа Францішак заклікаў маладых людзей з усяго свету прыехаць таксама ў Рым у 2025 годзе, каб прыняць удзел у Юбілеі моладзі.**

Перад малітвай Анёл Панскі, якая прайшла 6 жніўня пасля святой Імшы на заканчэнне Сусветных дзён моладзі ў Лісабоне, Папа падзякаваў касцельным і дзяржаўным уладам Партугаліі, арганізатарам форуму, валанцёрам і ўсім яго ўдзельнікам.

Святы Айцец заклікаў моладзь не забываць пра досвед, перажыты на СДМ, і ўваскрашаць яго ў памяці, калі наступяць непазбежныя моманты стомленасці і смутку, а магчыма, і спакусы спыніць шлях і закрыцца ў сабе. Папа Францішак прывітаў таксама людзей, якія не мелі магчымасці прыехаць у Партугалію, але прымалі ўдзел у ініцыятывах, арганізаваных у мясцовых Касцёлах.

“Мы суправаджаем думкамі і малітвамі таксама тых, хто не змог прыехаць па прычыне шматлікіх канфліктаў і войнаў. Думаючы пра гэты кантынент, я адчуваю глыбокі смутак па ўмілаванай змучанай Украіне”, – сказаў Папа, прызнаючыся, што яго самай вялікай марай з’яўляецца мір: каб маладыя людзі маліліся аб міры, жылі ў міры і будавалі мірную будучыню. Ён заклікаў юнакоў і дзяўчат маліцца за мір, калі яны вернуцца ў свае краіны. “Вы – знак міру для ўсёй зямлі, сведчанне таго, што нацыянальнасці, мовы і гісторыі могуць аб’ядноўваць, а не раздзяляць. Вы – надзея на іншы свет!” – дадаў Святы Айцец.

Папа Францішак заклікаў моладзь прыбыць у Рым з нагоды Юбілейнага 2025 года, а таксама абвясціў, што 41-я Сусветныя дні моладзі адбудуцца ў сталіцы Паўднёвай Карэі – горадзе Сеуле – у 2027 годзе. “Такім чынам, мы пераносімся з заходніх межаў Еўропы на Далёкі Усход: гэта прыгожы знак паўсюднасці Касцёла і мары пра еднасць, сведкамі якой вы з’яўляецеся!”, – падрэсліў Пантыфік.

# В Португалии Папа Римский дорисовал уличную фреску длиной более 3,5 км

**Папа Римский Франциск, который прибыл в Португалию для участия в съезде по поводу Всемирного дня католической молодежи, добавил завершающие штрихи к уличной фреске в муниципалитете Кашкайш (округ Лиссабон). Как отмечается в сообщении папского фонда Scholas Occurrentes, общая длина мурала “Жизнь между мирами” превышает 3,5 км.**

Объект стрит-арта появился в результате межрелигиозных и межкультурных контактов и встреч, которые “проводились в рамках подготовки к визиту Папы Римского Франциска в Кашкайш”, уточняется в пресс-релизе Scholas Occurrentes. В создании рисунка участвовали более 2 тыс. человек из 100 организаций муниципалитета Кашкайш. Они нарисовали 300 фресок, которые были объединены в одно произведение.

Scholas Occurrentes – это международная организация, которая была создана по инициативе Папы Франциска в 2013 году. Она представлена в 190 странах и объединяет школьников и студентов всего мира. В этот фонд входят школы и учебные заведения, как религиозные, причем любых конфессий, так и светские, частные и государственные.

В центре Всемирного дня католической молодежи, который проводится с 1986 года, – темы мира и экологии. Для 86-летнего Понтифика это уже четвертый слет католической молодежи. Впервые на этом мероприятии в качестве главы Римско-католической церкви он побывал в Рио-де-Жанейро в 2013 году вскоре после избрания на папский престол. В 2016 году он приезжал в Краков, предыдущие дни молодежи проводились в 2019 году в Панаме. Нынешний съезд был изначально отложен из-за пандемии.




# Плоды ВДМ: 3500 молодых людей решили посвятить себя Богу

Вечером 7 августа в Лиссабоне по окончании Всемирного дня молодёжи состоялась традиционная встреча Неокатехуменального пути, на которой 2000 юношей выразили желание стать священниками, а 1500 девушек – вступить в монашеский орден. На молебне присутствовали около 75 тысяч молодых людей из 114 стран, церковные власти, а также основатель этого церковного движения Кико Аргуэльо.

О лиссабонской встрече рассказал в интервью Радио Ватикана префект семинарии Redemptoris Mater в Варшаве о. Педро Хосе Гусман Ардила:

– Очень трогательно видеть молодёжь, которая задаётся вопросом: “К чему меня призывает Бог?”, потому что многие молодые люди даже не ставят перед собой такой вопрос. <...> Отрадно видеть этих юношей и девушек просто счастливыми, поющими и открытыми для воли Божьей. Это трогательно, ибо мы видим зерно Евангелия, которое помогает им верить в то, что Бог добр, что Он любит их, что Он обязательно приготовил для их жизни нечто великолепное. Именно таким способом они выразили свою готовность следовать за Ним и служить Ему. Это не может не радовать и наполняет каждого из нас надеждой”.

Во время богослужения молодые люди, объявившие о решении посвятить себя Богу, Церкви и служению другим, получили особое благословение Патриарха Лиссабонского кардинала Мануэла Жозе Клементи.

*Старонка падрыхтаваная па матэрыялах Vatican News*

# Займацца навукай – як маліцца. Што сабой уяўляе Ватыканская астранамічная супольнасць?

**Першы спадарожнік Ватыкана – SpeiSat – быў выведзены на арбіту з базы Вандэнберг (Каліфорнія) у чэрвені 2023 года 70-метровай ракетай Falcon 9. Гэта часткова шматразовая ракета-носьбіт кампаніі SpaceX, заснаванай мільярдэрам Іланам Маскам.**

Сам спадарожнік SpeiSat, які важыць два кг і не большы за скрыню ад абутку, мае дзве асноўныя задачы. Першае, гэта даставіць у касмічную прастору кнігу Папы Францішка "Чаму вы баіцеся?", 160 старонак якой былі сціснутыя ў нанакнігу памерам са шпількавую галоўку. І кожныя дзве хвіліны перадаваць папскія пасланні, якія ўсе радыёаматары свету змогуць паслухаць на частаце 437,5 МН. Акрамя рэлігійнай місіі, касмічны карабель будзе вымяраць магнітнае поле Зямлі з дапамогай магнітаметраў па трох восях.


Ружанец, бусіны якога зроблены, паміж іншым, з метэарыта і косці дыназаўра

Падобная калабарацыя паміж Касцёлам і навукай здараецца не ўпершыню. А калі казаць пра даследаванні космасу, то Ватыкан займае там адну з вядучых пазіцый. Ён мае ўласную абсерваторыю пры Папскай летняй рэзідэнцыі ў Кастэль Гандольфа, якая з'яўляецца адной з самых старых астранамічных установаў у свеце.

Пачаткі Ватыканскай абсерваторыі сягаюць 1578 года, калі Папа Грыгорый XIII склікаў езуіцкіх матэматыкаў і астраномаў, каб яны падрыхтавалі рэформу юліянскага календара, які выкарыстоўваўся з 45 г. да н. э. Каляндар змяшчаў невялікую памылку ў вызначэнні працягласці года, але да канца 1500-х гадоў памылка стала дастаткова вялікай, каб час касцельных святаў не сінхранізаваўся з адпаведнымі сезонамі. Грыгарыянская рэформа прывяла да больш дакладнага гадавога календара і спрошчанага спосабу вызначэння датаў рухомых рэлігійных святаў. З таго часу папы праяўлялі нястомную цікаўнасць да астранамічных даследаванняў і падтрымлівалі іх.

Супрацоўнікі Ватыканскай абсерваторыі робяць свой уклад не толькі ў астраномію, але і сумежныя навукі. Ніжэй – толькі некалькі прыкладаў з шэрагу іх заслугаў перад сусветам.

- Астраномы Ватыкана ў супрацы з іншымі 18-ю краінамі выпусцілі Carte du Ciel (Мапу Неба) – першы фатаграфічны атлас зорак.
- Айцец-езуіт Анджэла Сэккі распрацаваў першую сетку прагназавання надвор'я ў Цэнтральнай Італіі.
- Айцец-езуіт Біл Строгер супрацоўнічаў са Стывенам Хокінгам у Кэмбрыджы і Джорджам Элісам у Кэйптаўне, развіваючы тэорыю Вялікага выбуху.
- Ватыканскі тэлескоп перадавых тэхналогій (VATT) паслужыў узорам для шэрагу іншых рэвалюцыйных ідэй сучаснага дызайну тэлескопаў. Сярод інструментаў VATT ёсць, напрыклад, высакахуткасная камера, здольная рабіць да 400 кадраў у секунду.
- З 1986 года Ватыканская абсерваторыя кожнае лета праводзіць інтэнсіўныя курсы па астрафізіцы, збіраючы аспірантаў-астраномаў з усяго свету. Для ўдзелу ў курсах няма неабходнасці быць вернікам.


а. Габрыэле Джонці, у якога ўзяты каментар

На дадзены момант адным з Папскіх астраномаў з'яўляецца айцец-езуіт Габрыэле Джонці. Адно з яго дасягненняў – публікацыя наватарскай працы па тэорыі струн і квантавай гравітацыі, перасячэнні квантавай тэорыі і агульнай тэорыі адноснасці. А. Габрыэле SJ даў эксклюзіўны каментар для "Каталіцкага Весніка" (пераклад з англ.): *"Адна з прычын, чаму паўстала Ватыканская абсерваторыя, – гэта паказаць свету, што Касцёл не супраць навукі. Напрыклад, мяне рэлігія натхняе і дае вельмі шмат прычын для таго, каб займацца астраноміяй. Яна пабуджае мяне ставіць пытанні не кшталту "Ці ёсць зоркі на небе?", але "Чаму Бог размясціў там гэтыя светлавыя целы?". Увогуле правядзенне навуковых даследаванняў для мяне – гэта як нястомная малітва. Таму з пазіцыі верніка і навукоўца я не знаходжу аніякіх супярэчнасцяў паміж верай і навукай. Я не ведаю дакладна, як быў створаны сусвет, але вывучэнне гэтага працэсу ўпэўнівае мяне, што ён – прадукт Божай любові. Я адкрыў прыгажосць фізічных законаў, якія распавялі мне пра прыхільнасць Творцы да сваіх стварэнняў. Для чалавека, які не мае веры, гэта складана будзе зразумець. Працуючы побач з навукоўцамі-агностыкамі, я бачу, што яны таксама заўважаюць прыгажосць і гармонію сусвету, але не могуць растлумачыць, адкуль яна паходзіць. Растлумачыць гэта можа толькі чалавек, які мае веру. Быццё хрысціянінам вельмі дапамагае мне ў працы, бо дае моцную надзею, што некалі я знайду ў сусвеце, кажучы метафарычнай мовай, сляды Госпада".*

8 жніўня Касцёл успамінае св. Дамініка, заступніка астраномаў.

***Ангеліна Марцішэўская***

# Студент из Шри-Ланки, который выучил белорусские молитвы, стал магистром в Лондоне

**Шри-ланкиец Крис Харрис, который во время учёбы в Витебске служил министрантом у алтаря в местном католическом приходе, продолжил обучение в Великобритании и получил степень магистра в University of West London. Крис рассказал Katolik.life о том, что его удивило в Британии, почему в Беларуси ему было лучше, и какое его ждёт будущее.**

### По сравнению с Британией, в Беларуси было очень легко ладить с людьми

Крис получил степень магистра в области разработки программного обеспечения. Его квалификация – инженер-программист. Он отправился учиться в Великобританию, желая обосноваться в этой стране.

"Теперь у меня есть опыт обучения в двух разных странах – Беларуси и Англии. Каждая с двумя совершенно разными культурами и системами образования.

Должен признаться, что в Беларуси мне было намного легче жить, чем в Англии. У меня было гораздо больше возможностей в церкви, университете и вообще жизни в Беларуси. Я участвовал в широком и разнообразном спектре мероприятий, конкурсов и памятных событий. Меня хорошо знали в стране, и я был фаворитом среди всех сообществ, частью которых являлся.

**Там было очень легко ладить с людьми, и за все эти годы у меня появилось бесчисленное количество друзей, большинство из которых, надеюсь, останется на всю жизнь.**

Как ни странно, здесь, в Великобритании, я не смог завести и доли того количества друзей, которое у меня есть в Беларуси, несмотря на то, что я носитель английского языка", – признался Крис.

### "Я служил во время литургии, но это не понравилось людям"

Он привёл в пример конкретный случай, связанный с местной католической общиной.

"Я был служителем алтаря в Беларуси, людям нравилось моё присутствие в их приходах, и меня принимали с распростёртыми объятиями в каждом приходе. Когда я был в Англии, я пытался делать там то же самое. Я был прихожанином церкви Святого Сердца в Уимблдоне, служил во время Литургии с разрешения священника, но это не понравилось людям. Некоторые прихожане расспрашивали администраторов, кто это "незнакомое лицо". Когда я приехал в следующее воскресенье, мне сообщили о последствиях и сказали, что, если я продолжу, возникнут новые вопросы, и для того, чтобы меня приняли, я должен пройти 5-месячную стажировку в приходе. Поэтому я бросил там службу, потому что в рамках моих обязанностей со степенью магистра это было для меня непрактично. Более того, я был старшим служителем алтаря с огромным опытом и чувствовал, что проходить это обучение совершенно необязательно".



### "Британия – далеко не самое простое место для жизни"

Крис отметил, что с детства он был англофилом и понял, что его представления о Великобритании оказались фантазией: "Британия – далеко не самое простое место для жизни. Стоимость жизни очень высока. Погода такая депрессивная. Найти жилье практически невозможно. Уровень преступности в этой стране ужасает. Найти работу здесь непросто, так как рынок очень конкурентный, на него приходят люди со всего мира. При этом у меня было множество незабываемых впечатлений. Я был во многих известных местах. Посетил знаковые достопримечательности, с которыми страна и город ассоциируются во всем мире и которые были ключевыми элементами моей фантазии. Нет никаких сомнений в том, что мой британский опыт стоил того".

Крис решил вернуться на Родину, поскольку получил приглашение на работу в Национальную авиакомпанию. "Теперь я высококвалифицированный специалист. Я благодарю Бога за все Его милости и благословения от начала до конца во время моего невероятного путешествия и, наконец, Он благословил меня этим великим подарком".

*katolik.life*

# Абраз Маці Божай Падхорнай у Глыбокім

**У касцёле Святой Тройцы ў Глыбокім, у капліцы, якая знаходзіцца на правы бок ад алтара, можна ўбачыць вялікага памеру абраз, каторы мае дзіўную назву – "Маці Божая Падхорная". Першаўзорам для глыбоцкага абраза з'яўляецца абраз Багародзіцы, што знаходзіцца ў базіліцы Маці Божай Большай (Santa Maria Maggiore) у Рыме. Паводле традыцыі, у 352 годзе Папа Ліберый і багаты гараджанін Ян убачылі ў сне Маці Божую, Якая сказала ім пабудаваць базіліку на пагорку, на каторым пасярод лета выпадзе снег.**

У гэтай базіліцы знаходзіцца шанаваны абраз Маці Божай, каторы праз тое здарэнне са снегам называюць "Маці Божая Снежная", а афіцыйна – Маці Божая Уратаванне Рымскага Народа (Salus Populi Romani). Той абраз быў намаляваны ў візантыйскім стылі ў XII стагоддзі. У 1568 годзе Папа Пій V распаўсюдзіў культ гэтага абраза на ўвесь Касцёл, і намаляваныя на яго ўзор выявы сталі з'яўляцца па касцёлах усяго хрысціянскага свету.

Паводле мастацтвазнаўцаў, глыбоцкі абраз быў створаны ці ў канцы XVII, ці ў першай палове XVIII стагоддзяў. Езуіт кс. Алёізы Фрыдрых, калі складаў шматтомную кнігу "Historye cudownych obrazów Najświętszej Maryi Panny w Polsce", выдадзеную ў 1902 годзе ў Кракаве, асабіста прыязджаў у Глыбокае, каб даведацца пра абраз.

Паводле аўтара, абраз быў створаны не ў Глыбокім. Яго прывезлі айцы-кармеліты босыя, якія з 1642 года мелі тут свой кляштар, "з Віцебскай губерні". У часы, калі кс. Фрыдрых рыхтаваў кнігу, да Віцебскай губерні належалі Віцебск, Полацк і паўднёваўсходняя частка сучаснай Латвіі. Глыбокае належала да Віленскай губерні. Значыць, абраз трапіў у Глыбокае нават не з блізкіх ваколіц, а з адлегласці ў некалькі дзясяткаў або соцень кіламетраў.

У Глыбокім айцы-кармеліты мелі касцёл пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Цяпер гэта праваслаўны Кафедральны сабор Нараджэння Багародзіцы. Уваход у святыню пільнуюць масіўныя дубовыя дзверы з арнаментам, якія паходзяць з XVII стагоддзя. Вось там, адразу за дзвярыма на правы бок, пад касцельным хорам была капліца. Гэтай капліцай апекавалася брацтва Найсвяцейшай Панны Марыі Шкаплернай, якое складалася са свецкіх вернікаў з Глыбокага і наваколля. Менавіта ў гэтай капліцы пад хорамі і быў змешчаны абраз Маці Божай. Праз гэта ўзнікла і замацавалася за абразом назва "Маці Божая Падхорная".

Некаторыя звесткі пра капліцу і абраз мы можам знайсці ў інвентары кляштара кармелітаў, які быў складзены ў 1830 годзе і цяпер захоўваецца ў Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Вільні. Аўтар інвентара ўжывае да абраза ў капліцы назву "Падхорная" і піша, што абраз быў пакрыты мядзянай пабеленай шатай. Над выявамі Маці Божай і Дзіцятка Езуса былі срэбныя кароны з каштоўнымі камянямі. Алтар у капліцы быў упрыгожаны драўлянай разьбой, памаляванай у розныя колеры, і фігурамі анёлаў, некаторыя з якіх былі выяўленыя сярод аблокаў.

Два анёлы трымалі над абразом пазалочаную калону, а ў іншым месцы была пазалочаная выява імя Марыя з дванаццацю выразанымі з дрэва і пазалочанымі зоркамі. Да абраза былі прымацаваныя 96 вотаў – упрыгожванняў, якія пакідалі людзі на знак падзякі за атрыманыя Божыя ласкі. Акрамя вотаў, пры абразе знаходзіўся ордэн Святога Станіслава (адна з найвышэйшых узнагародаў у Рэчы Паспалітай) і крыж, упрыгожаны трыма дыяментамі. Каля абраза была срэбная выява адбітка ступні Маці Божай, прымацаваная на срэбным ланцужку, "для пацалавання тым, якія ўваходзяць і выходзяць", з надпісам аб адпусце. Таксама ў капліцы было пяць рэліквіярыяў з рэліквіямі святых. На штодзень абраз Маці Божай Падхорнай быў закрыты іншым абразом, з выявай Маці Божай Балеснай, Якая трымае на руках цела Езуса, знятага з крыжа. Так часта рабілі з асабліва шанаванымі абразамі, а прыклад такога закрывання аднаго абраза іншым мы можам убачыць у санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе.

Кс. Алёізы Фрыдрых піша, што абраз стаў вядомы цудамі яшчэ да таго, як яго прывезлі ў Глыбокае. У Глыбокім цуды працягнуліся. Айцы-кармеліты ахінулі гэты абраз вялікай пашанай. Кожную нядзелю пасля галоўнай Імшы яны маліліся адмыслова складзенай літаніяй, а пасля нешпараў разам з вернікамі спявалі песню да Маці Божай Падхорнай. Гэтая песня, падобна, была складзеная яшчэ ў XVIII стагоддзі, а яе тэкст захаваўся да нашага часу. Вось урывак:

*Не так прыгожае сонца ў сваёй велічы,*
*Калі плыве ў глыбіні нябёснага шляху,*
*Як паказалася прыгажосць,*
*Калі Марыя заззяла ў Глыбокім.*

Кс. Фрыдрых прыводзіць прыклады цудаў, якія Бог чыніў з тымі, хто ўшаноўваў глыбоцкі абраз, – ратаваліся тыя, хто тануў, аздараўляліся калекі. У 1837 годзе Ян Садоўскі, які не валодаў ні рукой, ні нагой, прыйшоўшы з кійком у Глыбокае, вымаліў перад абразом сабе аздараўленне. У тым жа годзе прынеслі ў касцёл паралізаваную жонку Фаўстына Заянчкоўскага, якая пасля малітвы ўстала і на сваіх нагах вярнулася дахаты. У 1854 годзе пасля малітвы вярнуліся да жыцця двое дзяцей Шараневічаў, якіх у непрытомным стане дасталі з вады. Айцы-кармеліты даўней запісвалі самыя значныя цуды ў адмысловай кнізе.

У 1864 годзе, пасля паразы паўстання Каліноўскага, улады Расійскай імперыі забралі многія касцёлы і аддалі праваслаўнай царкве. Такі лёс напаткаў і касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Глыбокім. Багатая аздоба пятнаццаці алтароў касцёла – абразы, скульптуры – была страчаная. Назаўсёды зніклі роспісы. Прапала кніга, у якой запісваліся цуды, якія Бог чыніў па малітвах каля абраза Маці Божай Падхорнай. Католікам удалося захаваць частку абразоў і ўбранства святыні і перанесці ў парафіяльны касцёл Святой Тройцы.


**Абраз Маці Божай Падхорнай.**
*Фота з папяровага абразка 1924 года, які захоўваецца ў адной з глыбоцкіх сем'яў.*

Абраз Маці Божай Падхорнай таксама быў перанесены ў касцёл Святой Тройцы. Традыцыя яго ўшанавання працягнулася. Кс. Фрыдрых піша, што на ўрачыстасці Святой Тройцы і Маці Божай Шкаплернай у Глыбокім збіраліся дзесяць – дванаццаць, а то і больш тысяч людзей. Многія прыходзілі памаліцца перад абразом Маці Божай і ў будныя дні. Бог працягваў чыніць цуды. Кс. Алёізы Фрыдрых піша, што бачыў воту, якую ахвяравала 1 мая 1890 года сям'я Буткевічаў "як падзяку Маці Божай за цудоўнае аздараўленне".

У 1902-1908 гадах парафіяльны касцёл быў разбудаваны. Ён стаў больш па плошчы, а вежы – вышэйшымі. З правага боку ад алтара была збудаваная капліца Маці Божай Падхорнай, у якой змясцілі цудадзейны абраз. Ён размяшчаўся пасярод аздаблення з драўлянай разьбы, што выяўляла аблокі і анёлаў.

Традыцыя ўшанавання Маці Божай у Падхорным абразе працягнулася і ў XX стагоддзі. У 1924 годзе з дазволу віленскага біскупа бласлаўлёнага Юрыя Матулевіча быў выдадзены папяровы абразок, на пярэдняй частцы якога змяшчаўся фотаздымак абраза Маці Божай Падхорнай. З тыльнага боку – "Песня аб Н. П. М. Падхорнай у Глыбоцкім абразе", складзеная яшчэ ў часы айцоў-кармелітаў.

У 20-я - 30-я гады XX стагоддзя тысячы вернікаў збіраліся ў Глыбокае штогод 16 ліпеня на адпустовую ўрачыстасць Маці Божай Шкаплернай. Выгляд капліцы Маці Божай таго часу вядомы па фотаздымку Ежы Хопэна, прафесара Універсітэта імя Стэфана Батория ў Вільні, зробленым у 30-я гады XX стагоддзя. На абодвух здымках мы можам бачыць, што абраз быў пакрыты шатамі, на галовах Маці Божай і Дзіцятка Езуса былі кароны, а ўсю прастору паміж постацямі і рамай абраза займалі дзясяткі вотаў. Звяртае на сябе ўвагу крыж – магчыма, той самы "з трыма дыяментамі", які згадваецца ў інвентары 1830 года. У пачатку 90-х гадоў адбылася рэстаўрацыя абраза, падчас якой шаты і воты знялі. Цяпер тыя воты можна ўбачыць у капліцы ў рамках побач з абразом. Яны ўяўляюць сабой розныя выявы: сэрца, чалавек на каленях, рука, нага, нават конь.

Касцёл ушаноўваў Маці Божую ад пачатку сваёй гісторыі і будзе ўшаноўваць да сканчэння свету. Варта, аднак, памятаць і па магчымасці падтрымліваць і захоўваць мясцовыя традыцыі ўшанавання Маці Божай, якія існавалі ў розных мясцовасцях нашага краю.

*Кастусь Шыталь*


Капліца Маці Божай Падхорнай.
*Фота Ежы Хопэна, са збораў Літоўскага музея мастацтваў, limis.lt.*


**Панарама Глыбокага на акварэльным малюнку 1869 года. Справа – былы касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, злева – парафіяльны касцёл Святой Тройцы.**

# Итальянский кардинал в Монголии мечтает о монастыре для продвижения евангелизации

**Итальянский кардинал в Монголии мечтает о монастыре для обращения кочевников, сообщает Седмица со ссылкой на *catholicnewsagency*.**

Когда итальянский кардинал Джорджо Маренго, ныне возглавляющий апостольскую префектуру Монголии, прибыл в страну в сане священника-миссионера 20 лет назад, его братия установила в голой степи две юрты: одну для благочестивых занятий, другую – для богослужений. "Нас отправили в отдаленный район, где Церкви суждено было появиться впервые, – вспоминает кардинал. – Мы прошли долгий процесс получения различных согласований и разрешений от властей, и, наконец, нам выделили участок земли – в пустой, голой степи".

Католические миссионеры, посвятившие каждый не менее трех лет упорному изучению монгольского языка перед отправкой в страну, не знали, с чего лучше начать, и принялись за молитвы. "Мы молились, свершали святую Евхаристию на монгольском языке, – вспоминает отец Маренго. – Со временем соседи к нам присмотрелись, стали робко заходить в гэр [юрту], садились и безмолвно рассматривали странных иностранцев, предающихся молитвам. Позже многие из них признались нам: "Мы почувствовали нечто особенное в этой юрте". Обращение начинается с молитвы, подчеркнул отец Маренго в своей лекции на этой неделе в римском Центре мирян. Монголия, затерянная на краю света страна кочевников, предоставляет огромные возможности для созерцательной молитвы, убежден пастырь.

Папа Франциск первым среди Понтификов Римских посетил Монголию. По словам отца Маренго, в Монголии ныне насчитывается всего 1450 католиков, это "одна из самых малых католических общин в мире". Кардинал указал журналистам после лекции, что Бог недаром вложил в сердце Папы желание посетить столь незаметную и дальнюю католическую общину, ибо "сердце Папы горит любовью ко вселенской Церкви и особенно к самым малым и скромным ее частям".

Религиозный ландшафт Монголии – некогда сердцевины тибетского буддизма – претерпел серьезные изменения в коммунистический период ее истории. На рубеже веков в Монголии насчитывалось около 110 тысяч буддийских монахов и 700 монастырей. Отец Маренго напоминает, что первый французский католический миссионер, посетивший этот край в конце 19 века, с изумлением нашел в нем изобилие буддийских монастырей и произнес: "Однажды в этой стране неизбежно возникнет католическая обитель". При однопартийном социалистическом правлении в период Монгольской Народной Республики многие монастыри были снесены и закрыты, около 17 тысяч буддийских монахов ушли из жизни, а многие прочие оставили монашество. Хотя после распада Советского Союза возникло движение восстановления старинных монастырей, все же примерно 40% населения Монголии считают себя атеистами или не выказывают явной приверженности к какой-либо религии.

Однако первые признаки религиозного возрождения в стране вдохновляют отца Маренго, и он разделяет мечту своего предшественника о создании первого католического монастыря созерцательного типа в стране, поскольку обитель "станет средством более действенного обращения народа". "В своих молитвах мы часто просим Господней помощи, чтобы однажды у нас тут возник католический монастырь, в котором созерцательные молитвы станут зримы, действенны и возвышенны для духа, – говорит священник. – Я уверен, что такая обитель Божья изменит положение с благовествованием в стране".

Отец Маренго в свои 49 лет считается самым молодым кардиналом в мире и в свои годы уже многое успел благодаря упорной учебе и духовным трудам. Ему удалось глубоко изучить и прочувствовать монгольскую культуру после долгих лет интенсивного изучения языка до и во время миссии. Теперь за его плечами более 20 лет миссионерской службы в стране, в том числе в качестве главы Апостольской префектуры Улан-Батора, юрисдикция которой простирается на всю страну.

Знания и опыт позволяют кардиналу свободно ориентироваться в уникальных аспектах монгольской культуры, которые важно учитывать в проповеднической и богослужебной деятельности. "В частности, хочу отметить, что в монгольской духовной культуре особое значение придается шепоту или, скажем, говорению приглушенным, нейтральным, смиренным тоном, – указывает кардинал. – Это обязательная часть местного народного этикета, особенно когда дело касается посвящения в духовные знания и ценности. Представьте себе на секунду итальянца, которому приходится сдерживать себя, говорить тихим голосом и укрощать привычную с детства жестикуляцию".

Кардинал Маренго рассказывает в качестве примера о народном обряде наречения в Монголии, когда недельного младенца обмывают бараньим бульоном в сумраке юрты, после чего мать берет его на руки и впервые трижды шепотом произносит его / ее имя. "Я не раз был свидетелем такого обряда, и каждый раз он глубоко трогал душу, – признается кардинал.

За время своей жизни и службы в стране я пришел к пониманию, что проповедь Евангелия шепотом или приглушенным голосом подчеркивает доверительные и дружеские отношения с оттенком конфиденциальности и осмотрительности. Чужаку нужно много времени, чтобы в полной мере погрузиться в культуру до такой степени, чтобы выстроить эти жизненно важные доверительные отношения. Вот тогда и возникает открытый канал общения, через который вы можете делиться самым сокровенным и драгоценным, – Благой Вестью от Иисуса.

Ныне процесс евангелизации страны насчитывает уже столетия, и во главе его все шире появляются местные уроженцы, которые приняли Христову веру и переосмыслили свою жизнь в свете Евангелия. Веру надлежит провозглашать и утверждать, ибо это свидетельство расширения прав и возможностей культур, их проникновения в новые измерения. Если проповедь не проникает в самое сердце культуры, ей суждено остаться подобием поверхностной краски, которая со временем шелушится и отпадает".

В своей лекции в Риме кардинал-миссионер подчеркивает, что сегодня "основополагающим принципом остается провозглашение Евангелия". Папа Павел VI утвердил эту мысль в своей энциклике о евангелизации Evangelii Nuntiandi 1975 года, изданной в качестве ответа "некоторым известным школам мышления, основанным на релятивизме, которые любую попытку проповеди Евангелия воспринимают с тревогой", поясняет кардинал.

"Интеллектуальный бунт прошлого века против идеи миссионерской проповеди сегодня уступил место более скромному стремлению к подлинности и глубине, – говорит отец Маренго. – У нас есть пример святого Павла, который показывает, как ученик может стать истинным миссионером после преображения его жизни через встречу с Христом. Евангелие как центр проповеднической миссии Церкви нельзя скрывать. Оно должно предлагаться свободно, пусть даже иной раз оно до времени понимается неполно и неправильно, что порождает свои проблемы. И все же Евангелие должно быть прожито и доказано свидетельством тех, кто следует ему".





# Па выніках уступнага экзамену ў семінарыю ў Гродне залічаны новыя семінарысты

**10 жніўня ў Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне адбыўся ўступны экзамен для кандыдатаў на першы год навучання.**

Падчас экзамену кандыдаты павінны былі паказаць веды па Катэхізісе Каталіцкага Касцёла, а таксама аднасна жыцця паўсядняга і мясцовага Касцёла. Акрамя таго, кожны кандыдат павінен быў растлумачыць матывы свайго выбару следаваць за Хрыстом.

Экзамен прымала экзаменацыйная камісія ў наступным складзе:

- біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB, старшыня Камісіі па справах фармацыі семінарыстаў і святароў пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі;
- біскуп Аляксандр Кашкевіч, ардынарый Гродзенскай дыяцэзіі;
- ксёндз-канонік Віталь Вайцяхоўскі, рэктар Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне;
- ксёндз Павел Скуба, куратар першага курса;
- ксёндз Ян Раманоўскі, прэфект Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.

Экзаменацыйная камісія пасля нарады паведаміла, што новымі студэнтамі Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне сталі наступныя кандыдаты:

- **Далгалёў Яўгеній** – Віцебская дыяцэзія (парафія Святой Тройцы, Глыбокае);
- **Масалыка Кірыл** – Гродзенская дыяцэзія (парафія святога Міхала Арханёла, Навагрудак);
- **Мяцеліца Віктар** – Віцебская дыяцэзія (парафія Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста, Наваполацк);
- **Шульгоўскі Міхаіл** – Віцебская дыяцэзія (парафія Нараджэння Маці Божай, Браслаў).

Такім чынам, у новым навучальным годзе падрыхтоўку да святарства ў духоўнай семінарыі распачнуць чатыры кандыдаты з дзвюх дыяцэзій Касцёла ў Беларусі.

Новы навучальны год у Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі распачнецца 1 верасня.

Адказныя за фармацыю будучых святароў у нашай краіне просяць усіх людзей добрай волі пра малітву ў інтэнцыі новых семінарыстаў, а таксама пра новыя пакліканні да святарства.

*Кс. Ян Раманоўскі,*
*Catholic.by*



# Атаназій Вялікі

**Цяжка ў адным артыкуле змясціць хоць бы асноўныя моманты з жыцця гэтага айца і Вялікага Доктара Касцёла, якім быў Атаназій, біскуп Александрыйскі. Ён адыграў у гісторыі Касцёла і тэалогіі значную ролю.**

**Копты і Атаназій**

У Копцкім Касцёле Атаназій славіцца асаблівай пашанай. Копцкі патрыярх Шэнуда III падчас святкавання гадавіны, звязанай з жыццём Атаназія, казаў, што гэты Александрыйскі біскуп меў асаблівую дапамогу ад Духа Святога і што ён, калі вучыў, ніколі не дапусціў аніводнай тэалагічнай памылкі. І калі б цяпер у мяне хто запытаўся, у чым заключаецца веліч гэтага чалавека, то я б адказаў: у тым, што ён увогуле застаўся ў Касцёле і памёр, знаходзячыся на сваім становішчы, якога шматразова яго несправядліва пазбаўлялі.

***Легалізацыя хрысціянства***

Біскупу Атаназію Александрыйскаму давялося жыць і служыць у асабліва цяжкі час, які распачаўся пераследам хрысціян за веравызнанне, а скончыўся рэлігійнай цярпімасцю пасля абвяшчэння т.зв. "Міланскага эдыкту" ў 313 г. Напрыканцы жыцця Атаназія хрысціянства сталася легальнай часткай Рымскай імперыі (т.зв. religio licita) і штораз больш славілася прыхільнасцю дзяржаўнай улады, будучы чыннікам, на які ўскладвалася надзея з'яднання ўсіх народаў, што насялялі імперыю. Такім чынам, хрысціянства ўжо тады стала яшчэ больш адыгрываць "свецкую" ролю. Па прычыне гэтага Касцёл апынуўся ў новай для сябе сітуацыі.

Па-першае, ерасі (няправільныя вучэнні) і схізмы (касцельныя расколы) сталіся дзяржаўнай праблемай. Бадай што кожны імператар у гэты час быў зацікаўлены ў тым, каб з імі як найхутчэй скончыць. На гэта накладваліся яшчэ два моманты:

1) падыход Касцёла – вырашэнне гэтых пытанняў у ключы братняй любові;

2) адміністрацыйныя патрабаванні – імператары хацелі мець справу з адзінай, добра арганізаванай супольнасцю, якая б супрацоўнічала з дзяржавай.

Па-другое, наступствам легалізацыі Касцёла і супрацы з дзяржавай стаўся ўплыў на дзяржаўныя і грамадскія справы біскупаў Касцёла. Таму зразумела, што дзесьці пастаянна ўзнікалі спрэчкі, барацьба за пасады, аб'яднанні адных біскупаў супраць іншых, спробы пасадзіць сваіх кандыдатаў на біскупскія сталіцы і г. д. Вядома, у Касцёле гэта ў асноўным не былі спрэчкі на прычыне заспакаення чыхсьці амбіцый, за уладу і ўплыў, але яны найперш датычылі чысціні веравучэння. І ў сітуацыі, калі Касцёл будзе ўсё больш з'ядноўвацца і камунікаваць, тэалагічныя адрозненні, якія дагэтуль сведчылі пра багацце і разнастайнасць Касцёла, стануцца прычынай узаемных абвінавачванняў і барацьбы.

Александрыйскі Касцёл, якім кіраваў Атаназій, моцна цярпеў па прычыне схізмы Мялецня, а яшчэ больш – праз тэалагічную спрэчку паміж Арыем і яго прыхільнікамі з аднаго боку і біскупам Аляксандрам Александрыйскім, папярэднікам Атаназія, самім Атаназіем і яго прыхільнікамі з другога. Нягледзячы на ўсе гэтыя спрэчкі, Атаназій ніколі не пайшоў на ніводзін кампраміс з ерэтыкамі. На ім фактычна скончыліся арыянскія інтрыгі, якія шкодзілі Касцёлу. Паводле М. Старавейскага, "перамога догмаў Нікеі – можна сказаць без перабольшвання – яго справа".

**Непахісны абаронца прававер'я**

Калі мы адкрыем біяграфію Атаназія, то ўбачым, што яму, калі ён стаў біскупам Александрыйскім (а тады ён не меў нават яшчэ 30 гадоў), давялося супрацьстаяць шматлікім праціўнікам, як у сваёй касцельнай супольнасці, так і ў іншых усходніх Касцёлах. Так, у 335 г. на сінодзе ў Тыры ён быў першы (і далёка не апошні) раз пазбаўлены пасады, але, тым не менш, не адмовіўся ад барацьбы і амаль да канца свайго жыцця змагаўся за сваё месца ў Касцёле, адхіляючы прэтэнзіі, якія яму ставілі яго праціўнікі.

Тэалагічныя творы, каторыя пісаў Атаназій, асабліва абвешчаныя ім "Тры прамовы супраць арыянаў", баранілі вучэнне, якое ён абвяшчаў, а таксама паказвалі, што праціўнікі Атаназія ішлі ў напрамку ерасі. Менавіта Атаназій Вялікі гучна заявіў, што слова, выказанае паўсюдным Нікейскім саборам, трывае вечна. Часта, аднак, ён бараніў хрысціянскае прававер'е вельмі рашуча, нават брутальна, не выбіраючы для гэтага слоў, што характарызуе яго як спраўнага палеміста. Так, апісанне смерці Арыя, пададзенае Атаназіем, хоць і ўтрымлівае ў сабе шэраг гістарычных элементаў, па сваёй сутнасці з'яўляецца інвектывай (рытарычнай абразай праціўніка), што прадстаўляе ерэтыка як новага Юду Іскарыёта.

**"Манаскі" каларыт творчасці Атаназія**

Падчас трэціх і чацвёртых уцёкаў Атаназій знаходзіўся сярод егіпецкіх манахаў-пустэльнікаў. Час, праведзены ў пустыні, не быў ім змарнаваны. Біскуп выкарыстаў яго на напісанне тэалагічных твораў і акрэслення вучэння аб боства Езуса Хрыста і Святой Тройцы. Таксама на просьбу манахаў ён напісаў "Гісторыю арыянаў", якая ахоплівала перыяд з 335 па 358 гг. Навошта ён пісаў гісторыю ворагаў прававерная хрысціянскага вучэння? Мабыць, каб дайсці да пачатку паўстання гэтай ерасі, а таксама акрэсліць умовы, у якіх яна змагла развіцца. Бо адкуль дым, адтуль і полымя. Каб перамагчы ворага, трэба даведацца, адкуль у яго сіла.

Больш вядомы, аднак, іншы яго твор, прысвечаны манаскаму жыццю, – "Жыццё св. Антонія", напісанае ў 357 г., праз год пасля смерці святога пустэльніка. Гэты твор – каштоўная пярліна аскетычнай літаратуры, якая аказала велізарны ўплыў на распаўсюджанне ідэалаў манскага жыцця на Усходзе і Захадзе Рымскай імперыі, а таксама на навяртанне найвялікшага айца Касцёла – Аўгусціна Гіпонскага. Твор быў перакладзены Эвагрыем Пантыйскім з грэцкай на лацінскую мову. У ім пададзены, паводле слоў Грыгорыя Назіянскага, "у форме апавядання правілы пустэльніцкага жыцця", якое з'яўляецца асаблівым шляхам да хрысціянскай дасканаласці.



**Як Атаназію ўдалося застацца ў Касцёле і ўтрымацца на пасадзе?**

Унікальнасць гэтага чалавека заключаецца ў тым, што ажно пяць разоў Атаназій адпраўляўся на выгнанне: спачатку ў Трэвір, потым у Рым. Далей ён сам пакідаў біскупскі палац і хаваўся недзе глыбока ў пустыні або ў нейкім невядомым месцы ў самой Александрыі. Аднак кожны раз пасля выгнання ён вяртаўся на біскупскі трон. Яму ўдалося абараніць сваё служэнне на пасадзе біскупа Александрыйскага. Ён памёр, будучы ў вялікай пашане сярод людзей.

Цяжка пераацаніць уплыў Атаназія на вучэнне Касцёла, асабліва аб Боскай натуры Езуса Хрыста. Менавіта Атаназій Вялікі задаў напрамак касцельнай тэалогіі на пачатку IV ст.

*Кс. Павел Эйсмант*

# Біскуп Алег Буткевіч узначаліў урачыстасць Унебаўзяцця Панны Марыі ў Адэльску

**13 жніўня ў Адэльску (Гродзенская дыяцэзія) адзначалася галоўная адпустовая ўрачыстасць – Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі. Святую Імшу на палявым алтары каля старадаўняга касцёла ўзначаліў па запрашэнні пробашча парафіі кс. каноніка Віктара Мыслюка біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.**

На Эўхарыстыю сабралася шмат парафіян і гасцей. Літургію ўпрыгожыў спевам дыяцэзіяльны хор "Cantate Domino" пад кіраўніцтвам Генрыха Давідовіча.

Пробашч прывітаў усіх прысутных і падкрэсліў, што для адэльскай парафіяльнай супольнасці гэта вялікая ўрачыстасць. Вядома, што ў Адэльску вельмі жывы культ св. Антонія Падуанскага, і кожны год у яго літургічны ўспамін там збіраецца вялікая колькасць вернікаў, але, як нагадаў кс. Віктар, галоўны тытул парафіі – Унебаўзяцце Панны Марыі, таму, дадаў ён, трэба таксама звяртацца з дзіцячым даверам да Маці Божай, бо Яна заўсёды спяшаецца да людзей з дапамогай.



Біскуп Буткевіч у гаміліі заахвоціў адкрыць свае сэрцы і душы на Божую ласку, як гэта заўсёды рабіла Панна Марыя, верная Божая Слуга. Старшыня епіскапату падкрэсліў, што Маці Божая дае цудоўны прыклад і хоча, каб кожны чалавек ішоў шляхамі Пана.

У канцы Эўхарыстыі вернікі парафіі з вялікай радасцю дзякавалі іерарху за прыбыццё на іх урачыстасць. Біскуп адзначыў, што наведаў Адэльск упершыню і ў захапленні ад веры мясцовых парафіян, іх прывязанасці да Касцёла і любові да Бога.

Урачыстасць завяршылася эўхарыстычнай працэсіяй вакол парафіяльнай святыні і спевам гімна "Цябе, Бога, праслаўляем". Такім чынам вернікі дзякавалі Пану за ўсе дары, якія атрымліваюць з Яго шчодрых рук.

*Grodnensis.by*

# "Сабраўшыся, паспяшаліся ў горную краіну". Моладзь Віцебскай дыяцэзіі прыняла ўдзел у Сусветных днях моладзі ў Лісабоне

**З 1 па 6 жніўня ў сталіцы Партугаліі, Лісабоне, прайшлі 37-я Сусветныя дні моладзі пад дэвізам: "Марыя ўстала і пайшла паспешна". Моладзь Віцебскай дыяцэзіі разам са сваім душпастырам кс. Алегам Хмылко адправілася ў пілігрымку, якая доўжылася больш за 14 дзён.**

Праехаўшы Польшчу і Германію, моладзь наведала санктуарый у французскай вёсцы Лурд, дзе ў 1858 годзе мясцовай дзяўчынцы Бернадэце некалькі разоў аб'явілася Маці Божая. Кожны вечар тут праходзіць малітоўная працэсія са свечкамі, у якой паўдзельнічалі і маладыя людзі з Беларусі.

Наступным прыпынкам стаў адзін з галоўных цэнтраў пілігрымаў – горад Сант'ягадэ-Кампастэла. Найважнейшай славутасцю гэтага месца з'яўляецца сабор св. Якуба, які нашыя пілігрымы таксама наведалі.

Далей маладыя людзі накіраваліся ў яшчэ адзін цэнтр паломніцтва – партугальскі горад Фаціма. У 1917 годзе тут Маці Божая аб'яўлялася тром дзецям. Два вечары ў гэтым месцы нашы пілігрымы ўдзельнічалі ў працэсіі, молячыся ружанец разам з тысячамі католікаў з усяго свету.

Удзел у Сусветных днях моладзі – гэта падзея, роўнай якой няма. Гэта сход маладых людзей з усяго свету, каторыя збіраюцца разам, каб сведчыць пра сваю веру, дзяліцца вопытам і ўзрастаць на духоўным шляху. Гэты вопыт адначасова захапляе і змяняе, пакідаючы глыбокі след у сэрцах і розумах удзельнікаў.

1 жніўня пілігрымы з Беларусі прыбылі ў Лісабон. Увечары адбылася Імша з удзелам кардынала Лісабона Мануэлем Клементэ. З 2 па 4 жніўня для ўсіх маладых беларусаў, якія прыбылі на СДМ у Партугалію, прайшла серыя сустрэч Rise Up. Разам з Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім арцыбіскупам Юзафам Станеўскім юнакі і дзяўчаты маліліся і разважалі на розныя тэмы. Падчас дыскусій удзельнікі мелі магчымасць абмеркаваць актуальныя пытанні і атрымаць рэкамендацыі, як арыентавацца ў сучасным свеце. Гэтыя сустрэчы заахвоцілі маладых людзей задумацца пра сваю веру, лепш зразумець сваё пакліканне ў жыцці, паглыбіць разуменне сацыяльнай справядлівасці і беражлівых адносін да навакольнага асяроддзя.

Яшчэ адной адметнасцю Сусветных дзён моладзі з'яўляецца культурны абмен. Удзельнікі мелі магчымасць размаўляць з людзьмі з розных краін, дзяліцца сваімі традыцыямі, знаёміцца з рознымі культурамі. Гэта паспрыяла фарміраванню пачуцця адкрытасці, разуменню і павагі да разнастайнасці культурнай спадчыны, разбурэнню бар'ераў і будаванню міжнацыянальнага сяброўства. Сувязі, якія ўзніклі падчас гэтага мерапрыемства, глыбокія і значныя. Сумесныя перажыванні момантаў малітвы і перааадолення цяжкасцяў зблізілі ўдзельнікаў настолькі моцна, што гэта распаўсюдзілася далёка за межы самога мерапрыемства.

4 жніўня ўдзельнікі Сусветных Дзён моладзі перажывалі разам з Папам Рымскім Крыжовы шлях: "Марыя ўстала і адправілася ў шлях. Езус навучыўся ў сваёй Маці: нават пад цяжарам Крыжа Езус устаў і адправіўся ў свой шлях. Пане, Навучы нас, маладых людзей, падымацца і ісці наперад. Нават калі жыццё цяжкае".

А ўжо 5 жніўня больш за 1,5 мільёна маладых юнакоў і дзяўчат прынялі ўдзел у начным чуванні разам з Папам Францішкам, падчас якога адбылася Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту і сумесная малітва: "Давайце падрыхтуем нашыя сэрцы да пакланення Святому Сакраманту, памятаючы гісторыю нашай веры і голас Езуса, Які заўсёды вітае нас і заклікае да Сябе. Разам з Марыяй мы будзем сузіраць Яго з удзячнасцю. Мы разам, і нас шмат: давайце пойдзем на кампраміс, каб несці радасць, прыгажосць і свет Божы ўсім!"

6 жніўня моладзь з усяго свету распачала свой дзень з галоўнай падзеі СДМ – святой Імшы са Святым Айцом Францішкам. Прысутнасць Папы і яго пасланні аказваюць глыбокі ўплыў на сэрцы ўдзельнікаў. Нагадваючы моладзі пра іх значнасць у каталіцкай супольнасці, Пантыфік сказаў: "Калі ўпаў – уставай, ідзі за мэтай і трэніруйся кожны дзень свайго жыцця. У жыцці няма нічога бясплатнага, за ўсё даводзіцца плаціць. Толькі адна рэч бясплатная – любоў Езуса! Так што, маючы гэты бясплатны дар, – любоў Езуса – і жадаючы працягваць шлях, давайце ісці з надзеяй, памятаць пра свае карані і ісці наперад без страху. Не бойцеся!"

Урачыстая святая Імша з удзелам Святога Айца ў Лісабоне ў 2023 годзе завяршылася словамі малітвы: "Перамененыя міласцю Божай, мы хочам падзякаваць Яму за тое, што мы перажылі ў гэты час Сусветных дзён моладзі. Няхай гэтая Імша ў "Кампа да Граса" ўмацуе нас Яго Святым духам, каб, вяртаючыся ў нашыя дамы, мы маглі быць жывымі сведкамі Яго любові для ўсіх, хто сустракаецца нам на шляху".

Напрыканцы Эўхарыстыі Папа Францішак аб'явіў, што наступныя Сусветныя дні моладзі пройдуць у 2027 годзе ў сталіцы Паўднёвай Карэі – Сеуле.

Пакідаючы СДМ, адчуваецца горыч. Гэта быў каштоўны вопыт, і ўспаміны пра яго застануцца ў памяці назаўжды. Наперадзе – час разважанняў і шмат магчымасцяў, каб атрыманы вопыт замацаваць у штодзённым жыцці. Пасля ўдзелу ў Сусветных днях моладзі ўдзельнікі зноў знаходзяць мэту, умацоўваюцца ў веры і імкнуцца змяніць свет да лепшага.

Напрыканцы варта адзначыць, што ўдзел у Сусветных днях моладзі – гэта неверагоднае падарожжа веры, адзінства і асабістага росту! Гэта магчымасць паразмаўляць з іншымі маладымі людзьмі, паглыбіць сваё духоўнае разуменне і натхніцца на жыццё ў любові і служэнні. Гэты досвед трансфармуе, пакідаючы глыбокі след у сэрцах і розумах тых, каму пашчасціла прыняць у ім удзел.

*Марына Федарцова, тэкст*
*Фота ўдзельнікаў пілігрымкі*





## У Удзеле адзначылі свята Маці Божай Анёльскай

**2 жніўня ў парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Удзеле адзначылі свята Маці Божай Анёльскай. Урачыстую святую Імшу цэлебравалі кс. Уладзімір Шымковіч, кс. Эдвард Нарадоўскі і а. Вальдэмар Куява OFMConv.**

**Алена Пажога**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Казанне прамовіў кс. Уладзімір Шымковіч. Святар звярнуў увагу на прыгажосць святыні і адчуванні сябе тут, як у небе. Тут, нягледзячы на розныя жыццёвыя цяжкасці і праблемы, можна адчуць радасць, прысутнасць Бога, прысутнасць Маці Божай, прысутнасць анёлаў. Кс. Уладзімір нагадаў выказванне: "Калі хто мае сваю Маці ў небе, то там знаходзіцца і большая частка яго душы". Марыя – Брама неба. Марыя – Валадарка неба, бо з"яўляецца Маці Валадара неба. Езус Хрыстус прыйшоў на зямлю праз Марыю. Неба – таямніца, якую тут, на зямлі, мы не спасцігнем. Езус сказаў, што ў неба вядзе вузкая дарога, але брама нябесная заўсёды адчыняецца перад Валадаркай неба. У Люрдзе, у Фаціме падчас аб'яўленняў Марыя гаворыць пра неба як пра свой дом. Марыя, увядзі нас у неба!

Пасля святой Імшы пры выстаўленым Найсвяцейшым Сакраманце вернікі памаліліся Літанію да Найсвяцейшага Сэрца Езуса. Затым адбылася Эўхарыстычная працэсія вакол касцёла, прагучаў гімн "Цябе, Бога, праслаўляем".



Каталіцкі ВЕСНІК
№8 (149)
жнівень 2023 г.

# “Каталіцкія СМІ – гэта першыя памагатыя ў будаўніцтве касцельнай супольнасці”.

## Размова з першай беларускай, якая ўдзельнічала ў Акадэміі EWTN

**Eternal Word Television Network, ці коратка EWTN, з'яўляецца адной з найбуйнейшых каталіцкіх тэлекампаній у свеце. Сёлета EWTN арганізавала ў Рыме летнюю Акадэмію для журналістаў з усяго свету. Сярод удзельнікаў была і беларуска Ангеліна Марцішэўская – шматгадовая аўтарка тэкстаў для газеты “Слова Жыцця”, а таксама для “Каталіцкага Весніка”. Паразмаўлялі з гарадзенкай пра Акадэмію, яе фокус, вынікі ды пра каталіцкую журналістыку ў цэлым.**




*Ангеліна Марцішэўская – журналістка газетаў “Слова Жыцця” і “Каталіцкі Веснік”. Паходзіць з Гродна.*

**– Ці ўдзельнічаў хтосьці з беларусаў да цябе ў Летняй Акадэміі EWTN?**

– У падобным маштабе, з правядзеннем конкурсу і ўдзельнікамі з усяго свету мерапрыемства адбывалася ўпершыню. Атрымліваецца, я – першая беларуска, якой пашчасціла там навучацца.

**– Ці ведалі іншыя ўдзельнікі пра Беларусь і наш Касцёл? З чым нашу краіну асацыююць журналісты з іншых краін?**

– Мне вельмі прыкра пра гэта казаць, але пра нашу краіну і Касцёл не ведаюць амаль нічога. Калі ў мяне пыталіся пра Беларусь, даводзілася даваць вельмі простыя адказы – падставы. Адзін амерыканскі журналіст, спытаўшыся пра маё паходжанне, адрэагаваў: “А-а, Беларусь… Лукашэнка!” Пры гэтым удакладніў, ці мае Беларусь выхад да акіяна (?)

Калі беларуская тэма і трапіла ў міжнародныя СМІ пасля 2020 года, то цяпер з інфармацыйнай павесткі са славянскага рэгіёну яе, зразумела, цалкам выцесніла тэма вайны ва Украіне. Гэта адчувалася і ў Акадэміі, тры ўдзельнікі якой былі ўкраінцы. Яны часта станавіліся цэнтрам увагі, да іх звярталіся з пытаннямі выкладчыкі, пра каментар іх прасіла каманда EWTN, каб зняць чарговы сюжэт навін. Беларусь, мясцовы Касцёл і нашыя праблемы застаюцца ў цені.

**– З якімі праблемамі сутыкаюцца каталіцкія журналісты ў іншых рэгіёнах?**

– Часцей за ўсё недахоп чалавечых рэсурсаў. Ну і неаднаразова ўзнімалі пытанні, як асвячаць “цёмныя” гісторыі з жыцця Касцёла, кшталту фінансавых скандалаў, выпадкаў педафіліі і г. д., як рэагаваць, калі іншыя СМІ атакуюць Касцёл. Відавочна, шмат журналістаў адчувае разгубленасць у гэтых пытаннях.

Прадстаўнік Дыкастэрыі па справах камунікацыі Даніэл Араса заклікаў не баяцца нападаў на Касцёл, ён бачыць у гэтым магчымасць тлумачыць рэчы лепш, бо за кожным абвінавачваннем можа хавацца пэўная праўда. А калі даводзіцца працаваць з абуральнымі гісторыямі, то не лічнаваць іх герояў, але і не станавіцца ў абарону.

**– На што рабілі ўхіл на Акадэміі?**

– Я б вылучыла тры галоўныя акцэнты. Па-першае, улічваючы, што EWTN – гэта перадусім пра тэлебачанне і відэа, нас вучылі працаваць з камерай, на камеру і з прадуктам, які зняла камера. Мы мелі лекцыі па тэму напісання гісторыі для відэасюжэта, здымкаў гэтай гісторыі і мантажу. Пасля адбываліся інтэнсіўныя практычныя заняткі па назвах трох пазіцыях. Пры гэтым удзельнікі спрабавалі сябе ў кожнай з роляў: дыктара, аператара, мантажора. Падкрэслівалася, што ў часы, калі інфармацыя прадукуецца і распаўсюджваецца з хуткасцю святла, журналіст павінен валодаць універсальнымі ведамі і навыкамі, каб пры неабходнасці падрыхтаваць увесь матэрыял самастойна.

Па-другое, рабіўся акцэнт на працы ў камандзе. На тым, як важна адчуваць, што ты выконваеш супольную місію. Як важна мець лідара, які прадумвае стратэгію развіцця, вучыцца на памылках, інвестуе ў сваіх супрацоўнікаў. Як важна, каб людзі ў калектыве мелі прагу да свайго служэння, былі сціплымі, разумнымі і вялі актыўны дыялог паміж сабой. Усё пералічанае – гэта аснова плённых вынікаў працы ў каталіцкіх СМІ.

І па-трэцяе, шмат увагі надавалі ўвогуле значнасці існавання масмедыя ў Касцёле. Мне запомніліся словы, якія, калі не памыляюся, сказаў віцэ-прэзідэнт вашынгтонскага офіса EWTN др. Мэцью Бансан: “Калі ў дыяцэзіі здараюцца фінансавыя цяжкасці, то найгоршае рашэнне, якое можа прыняць біскуп, – гэта скараціць бюджэт дыяцэзіяльнага медыя ці ліквідаваць яго. Каталіцкія СМІ – гэта першыя памагатыя ў будаўніцтве касцельнай супольнасці, гэта мост паміж біскупам, духавенствам і паствай”.

**– Ці былі нейкія важныя фокусы, над якімі працуюць у EWTN і якія табе падаліся пакуль непрымяняльнымі для нашай краіны?**

– EWTN шмат супрацоўнічае з некаталіцкімі медыя і падкрэслівае важнасць гэтай кааперацыі дзеля тлумачэння свету асноў нашай веры і таго, што сабой уяўляе Касцёл як інстытуцыя. Своеасаблівы біч хрысціянства сёння – гэта ўпэўненасць няверніка, што яны ведаюць хрысціянства дастаткова, каб яго крытыкаваць ці рабіць нейкія суджэнні. Але праўда ў тым, што яны не ведаюць пра Хрыста і супольнасць Касцёла амаль нічога. Памятаю, прыводзілі прыклад, як журналіст з пэўнага ўплывовага медыя прыбыў у Ватыкан, каб рабіць матэрыял пра Папу. Дык ён нават не ведаў, што Касцёл мае біскупаў. Таму адна з місій каталіцкіх журналістаў – быць праваднікамі для людзей з па-за Касцёла ў каталіцкі свет.

Мне цяжка ўявіць падобную супрацу ў Беларусі, бо ніколі не ведаеш, як гэтая інфармацыя будзе выкарыстана.

**– Можна пачуць меркаванне, што сённяшні час – гэта “эра прапаганды”, бо з'ява сталася настолькі глабальнай і ўсеабдымнай. Ці былі абмеркаванні на гэты конт?**

– Так, гэтая тэма сапраўды ўздымалася. Лектары падкрэслівалі, што мы жывём у часы “прамыўкі мазгоў”. Перадусім казалі пра тое, што каталіцкая журналістыка сама не павінна ўпадобіцца да прапаганды. Яе задача – асвятляць, што ў Касцёле ёсць добрага, а што кепскага. Утойванне “цёмных” гісторый ніяк не абараняе Касцёл, а толькі замінае ў працы над памылкамі. Разам з тым раілі прысутнічаць на кожнай платформе, ад газеты да Tik tok, але не дзеля таго, каб крытыкаваць погляды іншых, але каб паказваць сваё меркаванне.

Характэрнай рысай “эры прапаганды” з'яўляецца і тое, што чалавек траціць давер да СМІ, да інстытуцый, таму і Касцёлу складана прамаўляць у падобных умовах. У Акадэміі лічаць, што адным са спосабаў процідзеяння гэтаму можа быць актывізацыя асабістых акаўнтаў у сацсетках – біскупа, святара, манахіні. Бо давер чалавека чалавеку не толькі захаваўся, але і ўзрос.

**– Працягваючы тэму прапаганды, на тваю думку, якім павінен быць адказ каталіцкай журналістыкі?**

– Мне вельмі спадабалася, якое параўнанне ў дачыненні да каталіцкага журналіста выкарыстаў у Акадэміі – а sheepdog (сабака, які пільнуе авечак – англ.). Ён не дазволіць, каб зло трыумфавала, бо праўда для яго не ўзнікае ў выніку тых ці іншых узаемадзеянняў паміж людзьмі. Для каталіцкага журналіста існуе аб'ектыўнае правільнае і няправільнае.

На практыцы гэта перш за ўсё павінна адбывацца праз тое, каб не быць генератарам пазітыўных навінаў, але аб'ектыўна адлюстроўваць рэальнасць Касцёла. Не паддавацца спакусе выказваць асабістае меркаванне. І з павагай ставіцца да разнароднасці ў каталіцкай супольнасці.

**– З якімі думкамі ты вяртаешся з акадэміі EWTN?**

– Што каталіцкую журналістыку можна рабіць на высокім, прафесійным узроўні. Што на ёй можна зарабляць і не думаць, дзе яшчэ шукаць якую працу. Што варта больш увагі прысвячаць ватыканскім дакументам пра камунікацыю, бо яны вельмі прагрэсіўныя, як і аднайменная Дыкастэрыя. Ну і што я не адна ў сваёй місіі.

**– Кажуць, што такія сустрэчы важныя для навязвання кантактаў. Ці атрымалася штосьці ў гэтым плане?**

– Галоўная задача, якую паставіла перад сабой Акадэмія, – гэта менавіта стварэнне сеткі каталіцкіх журналістаў з усяго свету. На працягу года для яе чальцоў будуць праводзіцца іншыя афлайн- і анлайн-мерапрыемствы. Напрыклад, падчас СДМ у Партугаліі каманда EWTN правяла і фармальную, і нефармальную сустрэчы для журналістаў з Акадэміі, што прыехалі ў Лісабон.

Таксама Летнюю Акадэмію плануюць арганізоўваць штогод, запрашаючы чарговых удзельнікаў. Таму кантакты ёсць і, спадзяюся, будуць пашырацца.

**– Ты працуеш у беларускай каталіцкай журналістыцы каля дзесяці гадоў. Што цябе трымае ў гэтай сферы?**

– Яна дае мне радасць і асэнсаванасць быцця. Так бы мовіць, гэта мая аддушына.

**– Многія наракаюць на слабасць нашых каталіцкіх СМІ, недастатковасць прафесійнасці. Што ты кажаш у такіх выпадках?**

– Ведаеш, ад свецкіх чытачоў я заўсёды чую словы пахвалы і падзякі. Негатыў сыходзіць часцей за ўсё ад духавенства. А можа, каб яно ахвотней ішло на супрацу, то і медыя нашыя былі б іншымі.

**– Шмат журналістаў прыходзіла і сыходзіла з нашых СМІ. Ці справа толькі ў мізэрных заробках? Што ты думаеш на гэты конт?**

– За іншых я адказваць не магу, але з уласнага досведу падзялюся. На працягу ўсіх гадоў не пакідае пачуццё, што ты працуеш сам па сабе, і тое, што робіш, толькі табе і патрэбна. Прафесіяналы ў нашай журналістыцы ёсць, але ёй моцна не хапае арганізацыі. Неяк нядбайна размяркоўваюцца абавязкі і адказнасць, пры ўзнікненні непаразумення ці праблемы невядома, хто і як павінен гэта вырашаць. Востра адчуваецца адсутнасць камунікацыі, як у калектыве, так і паміж каталіцкімі рэдакцыямі ў Беларусі. Няма супольнасці, а гэта цягне за сабой маруднасць прафесійнага і духоўнага росту.

**– Ці ёсць нейкія аўтарскія планы ці мары? Што б хацелася зрабіць?**

– Можа, таму, што з манахінямі звычайна цяжэй за ўсё ўсталяваць кантакт, мне хацелася б знайсці падыход і запісваць гісторыі іх жыцця да кляштара і ў кляштары, іх думкі і мары. Апавяды пра людзей заўсёды самыя цікавыя. У часы крызісу пакліканняў яны мелі б асаблівую каштоўнасць. Разам з тым я вельмі люблю фармат відэаінтэрв'ю, шмат гляджу на YouTube. Хацелася б, каб размовы з важнымі для Касцёла ў Беларусі людзьмі таксама здымаліся.



# Што кажа Біблія пра Найсвяцейшую Панну Марыю? Тэст

Не так даўно Касцёл перажываў свята Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, таму ў гэтым месяцы мы прапануем вам успомніць, аб чым вы даведаліся пра Яе з Біблії.



**1 У якога прарока знаходзім наступныя словы: "Вось Дзева зачне і народзіць Сына і дасць Яму імя Эмануэль"?**



**А.** Ісая
**Б.** Ерамія
**В.** Осія

**2 Хто з евангелістаў распавядае пра нараджэнне Езуса?**



**А.** Мацвей і Лука
**Б.** Марк і Лука
**В.** Мацвей і Марк

**3 Хто прамовіў наступныя словы: "Блаславёная ты між жанчынамі і блаславёны плод улоння твайго" (Лк 1,42) – словы, якія і сёння часта вымаўляем падчас малітвы.**



**А.** Альжбета
**Б.** Габрыэль
**В.** Юзаф

**4 З якога Евангелля паходзяць словы песні Марыі: "Велічае душа мая Пана..."?**



**А.** Евангелле паводле святога Марка
**Б.** Евангелле паводле святога Мацвея
**В.** Евангелле паводле святога Лукі

**5 Колькі часу прабыла Марыя ў доме Захарыі?**



**А.** некалькі дзён
**Б.** 6 месяцаў
**В.** 3 месяцы

**6 Хто з евангелістаў распавядае пра цуд у Кане на вяселлі?**



**А.** Лука
**Б.** Ян
**В.** Мацвей

**7 Хто і пры якіх абставінах сказаў наступныя словы: "Тое, што Ён скажа вам, зрабіце" (Ян 2,5)?**



**А.** Голас з неба сказаў гэта вучням падчас перамянення Пана
**Б.** Марыя сказала гэта слугам на вяселлі ў Кане
**В.** Марыя кажа гэта вучням, калі прыйшла ўбачыць Яго

**8 Дзе Езус кажа Марыі гэтыя словы: "Жанчына, вось сын твой" (Ян 19,26)?**



**А.** Дванаццацігадовы Езус кажа гэта, пасля таго, як Яго знайшлі ў святыні
**Б.** Езус звяртаецца да Марыі з крыжа
**В.** Езус кажа гэта Марыі, калі яна прыйшла ўбачыць Яго

**9 Падчас якой падзеі пасля смерці Езуса ў Бібліі зноў узгадваецца Найсвяцейшая Панна Марыя?**



**А.** У капліцы пасля вяртання апосталаў з Аліўнай гары ў Ерузалеме
**Б.** Далей пра Яе кажа толькі святы евангеліст Ян у Апакаліпсісе
**В.** Яна была адной з жанчын, якія знайшлі магілу Езуса пустой

**10 Што адказала Марыя дванаццацігадоваму Езусу ў святыні, калі ён сказаў: "Ці вы не ведалі, што мне трэба быць у тым, што належыць Айцу Майму" (Лк 2,49)?**



**А.** Чаму Ты зрабіў гэта?
**Б.** Бацька твой і я балюча перажывалі, шукаючы Цябе
**В.** Нічога

*Падрыхтавала*
***Лаліта Арлоўская***

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**



# Адпуст у гонар святога Лаўрэнція

**10 жніўня Касцёл успамінае святога Лаўрэнція, дыякана і мучаніка.**

**Алена Пажога**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

*"Святы Лаўрэнe, апякуне наш,*
*Будзь з намі ў добры і нялёгкі час.*
*Не пакідай Вушацкае зямлі,*
*Заступнікам будзь нам, благаславі!"*

Гэтым спевам пачалася ўрачыстая святая Імша ў касцёле Святога Лаўрэна ва Ушачах. Святую Імшу ўзначаліў ксёндз Мікалай Ціхановіч. Казанне прамовіў ксёндз Дзмітрый Рацько. Святар распавёў пра жыццёвы шлях і мучаніцтва св. Лаўрэнція. Святы Лаўрэнцій – прыклад ахвярнасці, годны пераймання ў якасці заступніка для кожнага верніка. Калі жорсткі імператар Валерыян загадаў яму прынесці ўсе скарбы Касцёла, святы прывёў да правіцеля вялікі натоўп бедных, хворых, убогіх, назваўшы іх сапраўдным багаццем Касцёла. За гэта яго моцна катавалі і зажыва засмажылі на кратах.

Святы Лаўрэнцій ушаноўваецца і на Захадзе, і на Усходзе. Святы лічыцца апекуном бедных, бібліятэкараў, пажарных, пчаляроў, пекараў. І наогул гэта ўніверсальны святы, да якога звяртаюцца ў розных патрэбах.

Ксёндз Дзмітрый заклікаў кожнага ўглядзецца ў жыццё святога Лаўрэнція, каб ён даў іскру, каб запаліў сэрца любоўю. Як наследаваць святога? Уявіць, што святы жыве ў наш час, у нашых абставінах і паглядзець, ці было б яго жыццё падобным да нашага. Варта зразумець: усё, што мы ахвяруем Богу, ператвараецца ў каштоўнасць для нас, для нашай душы. Наследуючы святога Лаўрэнція, мы аддаём свае сілы, свой час Пану Богу, Касцёлу, чынім усё з запалам.

Ксёндз Віталь Галец падзякаваў прысутным святарам, вернікам за супольную малітву і нагадаў, што святы Лаўрэнцій з'яўляецца апекуном Ушачаў. Затым пры выстаўленым Найсвяцейшым Сакраманце вернікі памаліліся Літанію да Найдаражэйшай Крыві Езуса Хрыста. Прагучаў гімн "Цябе, Бога, праслаўляем".

Традыцыйна адбылося асвячэнне мёду і печыва, якімі гасцінныя парафіяне дзяліліся з усімі ахвотнымі.




## На верасень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1 верасня – дзень нараджэння** адзначае **кс. Віталь Бяленік** *(Падсвілле)*; **імяніны** адзначае **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*;

**4 верасня – дзень нараджэння** адзначае **кс. Антон Лагунёнак** *(Віцебск)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Юрый Бараўнёў** *(Порплішча)*;

**9 верасня – імяніны** адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*;

**18 верасня – імяніны** адзначае **а. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**19 верасня – гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Бягомль)*;

**20 верасня – гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Уладзімір Грыгор'еў**;

**21 верасня – дзень нараджэння** адзначаюць **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*, **а. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*;

**22 верасня – дзень нараджэння** адзначае **кс. канонік Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*;

**26 верасня – дзень нараджэння** адзначае **кс. канонік Андрэй Аніскевіч** *(Дырэктар нацыянальнага Карытас)*;

**28 верасня – імяніны** адзначаюць **кс. Вячаслаў Барок, кс. Вячаслаў Пялінак** *(Брэст)*, **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Ідолта)*;

**29 верасня – дзень нараджэння** адзначае **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*; **імяніны** адзначаюць **а. Міхаіл Ермашкевіч OP** *(Сянно)*, **кс. Міхаіл Татарэнка.**

*Падрыхтаваў*
***кс. кан. Віктар Місевіч***

# Парафіяльны адпуст у Чашніках

**6 жніўня ў свята Перамянення Пана парафію пад аднайменным тытулам у Чашніках наведаў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. Іерарх узначаліў урачыстую святую Імшу, якую ахвяраваў за ўсю парафію, за завяршэнне будоўлі касцёла, за ахвярадаўцаў.**

**Алена Пажога,** *тэкст;* **Леанід Юрык,** *фота*

У час казання біскуп Алег падкрэсліў, што Перамяненне Пана адбылося дзеля таго, каб умацаваць вучняў перад укрыжаваннем Езуса. Тром апосталам адкрылася праўда, што Езус – сапраўдны Сын Божы, той самы Бог, Які запрашае чалавека да супольнага жыцця. Перамена, што адбылася на гары Табор, стала наступствам малітвы Хрыста.

Прысутнасць Бога перамяняе кожнага чалавека. Гэтая падзея вельмі важная не толькі для апосталаў, але і для ўсіх нас. Чалавек павінен перамяняцца, удасканальвацца ў любові да Бога, да сябе і да іншага чалавека, перадольваючы цярпенні. Трэба навучыцца давяраць Богу. Нашы цярпенні нясе Хрыстус. Мэта для чалавека – хвала неба. Важна ніколі не траціць надзеі. Калі Бог з намі, то хто супраць нас? Не трэба баяцца смерці. Смерць – гэта сустрэча з Хрыстом. Чалавек не знікае бясследна, але перамяняецца. Бог прагне навучыць нас любові. Любіць – значыць, прымаць іншага чалавека такім, які ён ёсць.

Падчас працэсіі дароў да алтара былі прынесеныя запаленая свечка, фіялетавая стула, каляндар, вада, віно і белая гостыя.

На заканчэнне Імшы кс. Мікалай Ліпскі шчыра падзякаваў біскупу Алегу, скаўтам, усім, хто старанна працаваў у час падрыхтоўкі да свята. Парафіяне таксама выказалі словы падзякі высокаму госцю за малітвы, за памяць пра іх маленькую парафію, уручылі каравай, а яшчэ папрасілі пра фінансавую дапамогу ў завяршэнні будоўлі касцёла.

Біскуп Алег напомніў умовы атрымання адпусту і разам з вернікамі памаліўся ў інтэнцыі Святога Айца. Пры выстаўленым Найсвяцейшым Сакраманце прысутныя памаліліся Літанію да Найсвяцейшай Тройцы. Пасля спеву гімна "Цябе, Бога, праслаўляем" біскуп Алег асвяціў прыкасцельны крыж.

**P.S.** У цяперашні час парафія ў Чашніках нешматлікая, але яна мае багатую гісторыю. Ужо ў 1669 годзе тут існаваў касцёл, які ў той час меў тытул Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Вядома, што ў 1845 годзе ў парафіі налічвалася 1476 католікаў. У 1868 годзе касцёл быў пераўтвораны ў Мікалаеўскую царкву. А ў 1961 годзе прыгожы будынак у стылі барока ўзарвалі. Цяпер на тым месцы знаходзіцца школа.

Аднаўленне парафіі пачалося ў снежні 2000 года.




# У касцёле св. Ігнацыя ў Віцебску прайшоў фэст

**30 ліпеня у касцёле св. Ігнацыя ў Віцебску адзначылі ўрачыстасць святога, імя якога носіць касцёл. Святую Імшу ўзначаліў біскуп Алег Буткевіч.**

На пачатку Літургіі біскуп Алег павіншаваў парафіян са святам. А падчас казання растлумачыў словы апостала Паўла, звязаўшы іх з прыкладам жыцця святога Ігнацыя. "Што такое Божае Валадарства, якое з'яўляецца мэтай хрысціянскага жыцця? Пра гэта нам сёння кажа апостал Павел ў пасланні да рымлянаў: "Тым, хто любіць Бога, усё садзейнічае дзеля дабра". Мы бачым, што Божае Валадарства – гэта не што іншае, як адносіны з Богам. Гэта сапраўдны скарб чалавека, для якога ён гатовы аддаць усё".

"Тым, хто любіць Бога, усё садзейнічае дзеля дабра". Імкнуцца да дабра – натуральная патрэба чалавека, закладзеная Богам. Апостал Павел дае вельмі просты шлях: для таго, каб усё садзейнічала дабру, чалавеку трэба любіць Бога.

Сёння мы маем прыклад святога Ігнацыя з Лаёлы. Калі ён сапраўды палюбіў Бога, яму ўсё, нават выпрабаванні, садзейнічалі на дабро. Да навяртання, здавалася, ён жыў добра: будаваў кар'еру, вёў актыўнае жыццё. Але аднойчы з ім здарылася бяда: ён быў паранены ў бітве. Гэтая бяда ў выніку сталася для яго блаславеннем.

Падчас хваробы яму не было чым сябе заняць, таму ён чытаў кнігі. Гэта былі жыцці святых – тое, што знайшлося ў замку. Чытаючы, ён параўноўваў жыцці святых з іншай, свецкай літаратурай і зразумеў: тое, пра што ён чытаў, напаўняла сэрца сэнсам. Ён знайшоў скарб, і па сённяшні дзень дапамагае знайсці гэты скарб іншым", – сказаў біскуп.

Пасля ўрачыстай святой Імшы ў кожнага была магчымасць ушанаваць рэліквіі святога Ігнацыя і атрымаць "запрашэнне на гарбату" з ім. Пасля чаго пробашч парафіі запрасіў усіх на інтэрактыўную прэзентацыю, на якой гледачы маглі паглыбіць свае веды пра жыццёвы шлях святога Ігнацыя і нават павесяліцца.

Пасля інфармацыйнай часткі гасцей і парафіян чакалі пачастунак і танцы.



*Лаліта Арлоўская, тэкст.*
*jezuity.by, фота*



# Парафіяльны адпуст у Германавічах

**6 жніўня, у свята Перамянення Пана, у Германавічах адбыўся парафіяльны адпуст. На фэст сабраліся вернікі з усяго наваколля. Акрамя парафіянаў на свята завіталі госці з Лужкоў, Шаркаўшчыны, Наваполацка, Мёраў і іншых парафій.**

Канцэлебраваную святую Імшу ўзначаліў пробашч парафіі святога Арханёла Міхала ў Лужках ксёндз Іван Кароткін.

Адпустовай урачыстасці папярэднічала пэўная падрыхтоўка. Святыня ўся патанала ў кветках, а прыкасцельная тэрыторыя была прыгожа аздобленая гірляндамі з рознакаляровых сцяжкоў, што стварала атмасферу радасці і ўзнёсласці. Аднак асноўная ўвага была накіраваная на духоўную падрыхтоўку вернікаў. У пятніцу і суботу ў парафіі прайшлі перадсвяточныя рэкалекцыі, якія правёў ксёндз Іван Кароткін.

Быў таксама вызначаны час для споведзі. Вернікаў, якія з прычыны хваробы не змаглі наведаць касцёл і скарыстацца сакрамантам пакаяння, святары наведалі дома. Кульмінацыяй свята стала нядзельная ўрачыстая Літургія а 12-ай гадзіне, на якую сабралася больш за сто вернікаў, у тым ліку шмат дзяцей і моладзі. У белых строях з вяночкамі на галаве яны нагадвалі анёлкаў.

Атмасферу свята падтрымліваў парафіяльны хор, які сваімі спевамі ўпрыгожыў Эўхарыстыю.

Душпастырская навука была цесна пераплеценая з тэкстам Евангелля на свята Перамянення Пана. У сваёй гаміліі ксёндз Іван параўнаў жыццё чалавека з гарой. "Гара ў Старым і Новым Запаветах з'яўляецца знакавым месцам – месцам спаткання чалавека з Богам. Евангелле паводле Мацвея (Мц 17, 1–9) паказвае нам, як Езус узыходзіць з вучнямі на гару Табор, дзе аб'яўляе сваю Божую натуру. "Гэта Сын Мой умілаваны, Якога Я ўпадабаў", – гаворыць Бог Айцец. Радасць ад перажытай падзеі агарнула вучняў і яны не хацелі спускацца дадолу. Так і мы ў сваім жыцці хочам, каб радасныя моманты працягваліся як мага даўжэй, аднак жыццё прымушае нас выйсці з зоны камфорту. <...> Знешняе перамяненне Езуса неабходна было апосталам, каб яны перамяніліся духоўна. Таксама і нам патрэбная духоўная перамена, перамена сэрца. Змяніць нас ніхто не зможа, калі мы самі гэтага не жадаем, таму мы павінны імкнуцца да перамены, каб дасягнуць Божага валадарства".

Літургію слова працягнула малітва вернікаў, падчас якой дзеці і моладзь узносілі просьбы да Пана Бога, а прынашэнне дароў паспрыяла годнай падрыхтоўцы ўдзельнікаў свята да Эўхарыстычнай літургіі.

Пасля Імшы адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, падчас каторага памаліліся Літаніяй да Найсвяцейшага Сэрца Езуса, а затым уславілі Пана Бога Эўхарыстычнай працэсіяй вакол касцёла.

Напрыканцы свята пробашч парафіі ксёндз Ян Пугачоў выказаў словы ўдзячнасці ўсім, хто прычыніўся да падрыхтоўкі і арганізацыі ўрачыстасці. Святар выказаў надзею, што мясцовыя рэлігійныя традыцыі і надалей будуць перадавацца з пакалення ў пакаленне, а моладзь і дзеці стануць актыўнымі ўдзельнікамі парафіяльнай супольнасці.

Парафіяне ў сваю чаргу падзякавалі святарам за душпастырскую апеку і ўручылі ім кветкі.

Фэст – гэта не толькі супольная малітва, але, паводле даўняй традыцыі, яшчэ і кірмаш. Падчас свята вернікі змаглі набыць рэлігійныя рэчы, ласункі для дзетак, а таксама адмысловы гліняны посуд, што прадставіў мясцовы Дом ганчара. Як адзначыў яго кіраўнік Сяргей Рымдзёнак, гэта адзіная на тэрыторыі Беларусі ўстанова, каторая займаецца аднаўленнем традыцыі вырабу посуду.

***Жанна Закрэўская,***
*kascelmery.by*

# Свидетельство выздоровления женщины-алкоголика

**Елена в прошлом – хорошая девочка, которая пыталась заслужить любовь, а в настоящем – выздоравливающий алкоголик и женщина, которая умеет ценить себя такой, какая она есть. Каким образом произошла такая перемена? Елена поделилась с нами своим опытом.**

В школе я была отличницей, хорошей девочкой, гордостью родителей. Очень старалась соответствовать их идеалам, быть во всём правильной. В девятом классе я познакомилась с парнем, который был хулиганом и с ним в первый раз попробовала алкоголь. Не могу сказать, что мне понравился вкус, это, скорее, помогло мне легче общаться. Обычно люди не любят правильных, меня в классе тоже не любили. Алкоголь на время убирал внутренний барьер “правильности”, снижал мои достаточно высокие моральные нормы, которые делали меня крайне зажатым человеком.

Не знаю, в какой момент я стала алкоголиком. Долгое время у меня не возникало никаких проблем, даже не тянуло выпить. Я могла употреблять иногда, опять же, для установления контакта. Школу я закончила почти с золотой медалью, без проблем поступила в университет.

**Именно в университете я заметила, что выпиваю значительно больше, чем мои подруги.**

Но это казалось мне нормальным. Кому-то нужно меньше, кому-то больше – все люди разные. В тот момент я даже мысленно не могла связать себя с алкоголизмом, у меня же мама нарколог. К тому же я выросла на территории психбольницы (у нас там была квартира) и видела алкоголиков, они были не такие, как я. Даже после двадцати лет употребления я никогда не признавала, что я – алкоголик. Это для меня было бы катастрофой.

Именно в университете начались первые проблемы, связанные с употреблением. Я начала пропускать занятия, и если школу я закончила с отличием, то университет – с трудом.

На работе я стала пить ещё больше. Я замечала, что, когда мои коллеги отправлялись домой с кафе, в котором мы могли немного выпить, я шла в другое место и продолжала пить одна. Такое употребление уже было никак не связано с первоначальной целью – построением связей с людьми. Мне просто нужна была определённая доза.

Когда я вышла замуж, в семье почти сразу начались проблемы. У меня была своя картинка мира, иллюзии, которые были очень далеки от реальности. Я обижалась на мужа за то, что он им не соответствовал, не умела с ним разговаривать, замалчивала проблемы, терпела. Для того, чтобы это всё не замечать, я стала пить ещё больше.

Я старалась выпивать тайно, это было не трудно. Муж работал по сменам, когда его не было, я могла спокойно пить. Если он замечал бутылки, я говорила, что приходили подруги и мы выпили по бокалу. К тому же с собой у меня постоянно было что-то, что могло перебить запах перегара: мускатный орех, лавровый лист и т.д.

**Мне казалось, что дочка не замечает, что я выпиваю, а она замечала.**

Сейчас я понимаю, насколько ей было тяжело. Я не могла ей дать любви, тепла, когда находилась в состоянии опьянения. Она начала закрываться. Ей приходилось быть со мной взрослой, замалчивать вместе со мной проблему, врать папе, если он вдруг спросит.

Несмотря на это, внешне всё выглядело очень прилично. Я никогда ничего не пропивала, не уходила в запои, даже состояла в родительском комитете, на работе “висела” на доске почёта. Такая картинка очень сильно отдаляла меня от мысли, что я спиваюсь. В таком состоянии я провела лет 15.

Один раз я вышла пьяная на работу. Работа была для меня очень важна, она гарантировала мне сохранение независимости. Я очень испугалась, когда пришла на работу пьяная, это значило, что я больше не контролирую своё употребление. К счастью, тогда ничего не случилось. К тому же не выдержал муж. Конечно, он видел, что я выпиваю. Он много раз мне говорил: “Ты как-то неправильно себя ведёшь, слишком много выпиваешь и перегаром от тебя пахнет”. В тот самый день, когда я вышла на работу пьяная, он просто собрал мои вещи, отвёз меня к маме и сказал: “Решай свои проблемы сама”.

Тогда мои глаза открылись. Я поняла, что у меня разваливается семья, я на грани потери работы, но главное, что меня волнует, – как выпить. Мои убеждения, что я такая успешная и вокруг меня всё должно крутиться, исчезли. Я поняла, что мной руководит алкоголь, и очень испугалась.

Испытав этот страх, я пришла в Анонимные Алкоголики. Прийти туда мне было крайне стыдно. Мне казалось, что я единственная в городе алкоголичка. Этот стыд невозможно передать словами.

Я хочу сказать женщинам, которые соберутся пойти в анонимную группу: не бойтесь, других таких женщин очень много. Просто обычно женщины скрывают зависимость до последнего.

**Когда я пришла, в группе действительно были одни мужчины.**

Но они оказали мне огромную поддержку. Первых три собрания я просто рыдала, а они меня слушали. На тот момент со своей проблемой я осталась одна. Все мои подруги были нормальные, родители и муж меня понять тоже не могли, к тому же мне было очень стыдно и страшно рассказывать кому-то о том, что со мной происходит. Особая атмосфера анонимных алкоголиков помогла мне открыться, почувствовать себя понятой, принятой. Выходя с группы, я буквально летала. Наконец я была не одна. А главное, я увидела, что выход есть.

Но за пределами группы поддержка заканчивалась, а окружающие всё ещё казались мне врагами. У меня не было доверия к людям. Эта ситуация продолжалась до того момента, пока я не начала проходить программу 12 шагов. Сейчас я вижу, что просто ходить на собрания – недостаточно, необходимо ещё и работать над собой, своим образом мышления. За последние семь лет трезвости я очень изменилась. Я пришла к согласию с самой собой. Я больше не пытаюсь быть хорошей девочкой, чтобы заслужить любовь, но знаю, что и так её достойна. Я больше не притворяюсь, и от этого мне стало спокойно.

*Со слов Елены*
*свидетельство записала*
***Лолита Орловская***

# Как спастись от алкоголизма?

**“Анонимные алкоголики” – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**



- Единственное условие для членства – это желание бросить пить.
- Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.
- Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.
- Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.
- Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге “Анонимные алкоголики”. Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29
**Где нас найти?**

**г. Витебск**
Группа “Возрождение”
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа “Выход есть”
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа “Лотос”
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Браслав**
Группа “Истина”
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Лепель**
Группа “У озера”
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Глубокое**
Группа “Точка отсчёта”
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа “Радость”
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: среда и воскресенье – 18.00
+375 (29) 737-47-64

**г.п. Шумилино**
Группа “Свет”
ул. Светлосельская 2
суббота 15.00
тел. +375 29 8173632
эл. почта: mifik29@gmail.com

**г. Полоцк**
Группа "Секрет выздоровления"
ул. Держинского 50.
Расписание собраний:
среда 19:00, суббота 19:00
тел. +375 29 7019101

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемику по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны* ***ксёндз-пробашч Андрэй Кулік****! Шчыра віншуем Вас з Днём нараджэння (26 жніўня)!*

*Няхай добры Бог, Якога Вы штодзённа прымаеце ў сваіх святарскіх руках, выслухоўвае Вашы малітвы, накіроўвае ў складаных сітуацыях, узмацняе ў выпрабаваннях, блаславіць Вас і адорвае сваімі ласкамі, здароўем, мудрасцю і стойкасцю ў душпастырскай працы, напаўняе кожны дзень Вашага жыцця любоўю і дабрынёй!*

*Жадаем апекі Маці Божай, шчодрых дароў Духа Святога на Вашай дарозе жыцця!*

*Дзякуем нашаму паважанаму ксяндзу Андрэю за шчырую малітву, за прыклад пабожнасці, за клопат пра людзей і пра нашу святыню!*

*Надзейных Вам сяброў, шчырых вернікаў і дабразычлівых людзей побач!*

*Сардэчна дзякуем Вашым бацькам за выхаванне сына і жадаем ім моцнага здароўя, даўгалецця, духоўных і фізічных сіл!*

***З удзячнасцю і любоўю, вернікі парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі (г. Мёры)***

*Віншуем нашага паважанага* ***ксяндза-пробашча Андрэя Куліка*** *з Днём нараджэння, які ён адзначыць 26 жніўня.*

*Паважаны ксёндз Андрэй! Мы ўдзячныя Пану Богу за дар Вашага жыцця і святарскага паклікання, за тое, што нам пашчасціла сустрэцца з Вамі! Дзякуем Вам за мудрасць і цярплівасць, за самаахвярную працу ў справе аднаўлення нашага касцёла! Мы бачым, колькі сіл і намаганняў Вы прыкладаеце, каб наша святыня і яе наваколле радавалі жыхароў і гасцей нашага слаўнага мястэчка.*

*Заставайцеся і надалей плённым рупліўцам на Божай ніве! Няхай Збаўца свету адорыць Вас усімі патрэбнымі ласкамі! Шчодрых дароў Духа Святога і апекі Маці Божай!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Унебаўзяцця НПМ і Язафата Кунцэвіча (г. Мёры)***

*Паважаны* ***ксёндз Андрэй Кулік****!*

*Сардэчна віншуем з Днём нараджэння (26 жніўня)! Жадаем здароўя на доўгія гады, поспехаў у святарскім служэнні і добрых людзей на жыццёвым шляху. Няхай ва ўсім дапамагае Пан Бог, а Маці Божая атуляе сваёй апекай і любоўю!*

***З пажаданнямі, бацькі і сёстры з сем'ямі***

### Хвала Хрысту!



*Паважаная рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"! Мы шчыра дзякуем за супрацоўніцтва, за чулыя адносіны да чытачоў і звяртаемся з чарговай просьбай: надрукаваць на старонках газеты віншаванне з нагоды Юбілею нашага паважанага* ***ксяндза-пробашча Віталія Бяленіка****, які ён будзе адзначаць 1 верасня.*

*Наш* ***ксёндз Віталій****, прыміце віншаванні*
*Са святам, з Юбілеем, з Вашым днём!*
*Здароўя, шчасця, шчырыя жаданні*
*Ад вернікаў з Падсвілля мы Вам шлём!*
*Мы Вам жадаем ласкі Божай,*
*Хай светам Госпада напоўніцца жыццё!*
*Хай кожны дзень пражыты веру ў людзях множыць,*
*Прызнаннем вернікаў аздобіцца быццё!*
*Няхай Вас Бог ад бед аберагае,*
*Паказвае ў службе добры шлях!*
*Няхай Анёл заўжды абараняе,*
*І ўсё пачатае хай мае свой працяг!*

*Шчыра віншуем, моцна любім і бясконца давяраем Вам, наш добры Ойча!*

***З вялікай павагай, парафіяне касцёла Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў Падсвіллі***

### Хвала Хрысту!



*Паважаны* ***ксёндз Генадзь Рэйшаль****! Дазвольце павіншаваць Вас з Днём нараджэння, з 45-годдзем!*

*Шчыра жадаем Вам цудоўнага настрою, невычэрпнай сілы на служэнне Богу і парафіі, шмат новых магчымасцяў праявіць сваю вернасць выбранаму нялёгкаму шляху святарства! Няхай заўсёды Вашыя сэрца і душа будуць напоўнены мудрасцю, супакоем і любоўю, каб праслаўляць Пана Бога сваім жыццём!*

*Дзякуем Вам за вернае служэнне, за любоў і разуменне, за малітвы і ўдзеленыя святыя сакраманты!*

***З малітвай, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага (г. Віцебск)***

### Хвала Хрысту!

*Шаноўны* ***ксёндз Валеры Марціноўскі****! Віншуем Вас з 11-годдзем святарскага пасвячэння! Мы вельмі ўдзячныя Пану Богу за дар Вашага жыцця і святарскага паклікання, за тое, што Вы з намі!*

*Жадаем Вам пленнага служэння на хвалу Божую, моцнага здароўя, натхнення на здзяйсненне ўсіх спраў! Няхай Міласэрны Бог дапамагае Вам у святарскім служэнні, а Панна Марыя, Заступніца святароў, атуляе сваёй апекай і моліцца за Вас!*

*Прыміце шчырую падзяку за ўмацаванне парафіян у веры, за чулае сэрца, за клопат пра кожнага верніка!*

***З пашанай і малітвай, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага (Віцебск)***

### Хвала Хрысту!

*Паважанаму* ***Ксяндзу Вячаславу Адамовічу*** *з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем здароўя, сіл, стойкасці, непахіснай веры і надзеі! Няхай кожны дзень Вашага жыцця будзе шчаслівы і блаславёны, хай добры Бог адорвае шчодрымі ласкамі, Панна Марыя няспынна апякуецца, а святы заступнік нястомна моліцца за Вас перад Божым тронам!*

***З малітвай і ўдзячнасцю, парафіяне з вёсак Лявонпаль, Дэмскія, Паташня (Мёрскі раён)***

*Паважанаму* ***ксяндзу Вячаславу Адамовічу*** *з нагоды Дня нараджэння дасылаем букет найлепшых пажаданняў: сапраўднай радасці і светлай надзеі, здароўя, шчырых і сумленных людзей на жыццёвым шляху, міласэрнасці і велікадушнасці, поспехаў, нязгаснага душэўнага цяпла ў складаным святарскім служэнні! Хочам падзякаваць Вам за разуменне, за мудрасць і цярплівасць, за шчырую малітву, за чулае і добразычлівае сэрца, за апеку і клопат пра нас і нашу святыню, а таксама за ўмацаванне нас у веры і любові да Бога!*

*Няхай Езус падтрымлівае Вас у кожнай справе, Найсвяцейшая Маці Божая Фацімская хай заўсёды будзе побач з Вамі, дапамагае ў цяжкія хвіліны сваёй мацярынскай любоўю і клопатам, Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі, Анёл-ахоўнік заўсёды будзе побач, а святы апякун заступаецца за Вас, выпрошваючы ў Пана патрэбныя ласкі!*

***Касцельны камітэт і вернікі з парафіі Маці Божай Фацімскай у Павяцці***

*Паважаны* ***ксёндз Вячаслаў Адамовіч****! Віншуем Вас з Днём нараджэння (10 жніўня) і складаем самыя сардэчныя пажаданні!*

*Просім Міласэрнага Пана, каб адарыў Вас нязгасным энтузіязмам у шчырым служэнні Богу і людзям, моцным здароўем! Жадаем Вам душэўнага спакою, радасці, поспехаў у рэалізацыі планаў і намераў, добразычлівых людзей побач! Няхай Пан Бог блаславіць кожны момант Вашага жыцця, Маці Божая хай адорвае ласкай і апекай, а анёл-ахоўнік засцерагае ад усялякага зла! Жадаем доўгіх гадоў жыцця, мудрасці і цярплівасці!*

*Ад усяго сэрца дзякуем за святыя сакраманты, за Вашу любоў, за парады, за клопат і нялёгкую працу ў нашай парафіі! Нізкі Вам паклон!*

***З павагай, вернікі парафіі Маці Божай Шкаплернай у Ідолце.***

*Шаноўны* ***ксёндз Вячаслаў Адамовіч****! Наша супольнасць з капліцы ў Забалоцці віншуе Вас з Днём нараджэння!*

*Просім для Вас блаславення Пана Бога! Няхай анёлы і святыя аберагаюць Вас! Няхай Святы Дух адорыць Вас сваімі дарамі, а людзі праз Вашу паслугу пазнаюць Бога жывога!*

*З удзячнасцю і радасцю, што Вы ў нас ёсць, дзякуем Пану Богу!*

# Цуд у Фаціме? Да 16-гадовай удзельніцы СДМ раптоўна вярнуўся зрок!



**Старшыня епіскапату Іспаніі кардынал Хуан Хасэ Амела заявіў у нядзелю, 6 жніўня, што размаўляў праз відэасувязь з 16-гадовай іспанскай дзяўчынай з Мадрыда па імені Хімена, якая сцвярджае, што падчас Сусветных дзён моладзі (СДМ) у Лісабоне да яе вярнуўся зрок.**

– Дзякуй Богу! Пазней лекары вызначаць, ці можна вылечыць Хімену. Але для дзяўчыны – гэта нешта вялікае, скажам так, цуд, – заўважыў кардынал Амела на прэс-канферэнцыі па падвядзенні вынікаў удзелу іспанскай моладзі ў СДМ.

Старшыня іспанскага епіскапату паведаміў, што даведаўся пра падзею ад манахіні, якая ведае сям'ю дзяўчыны. Хімена прыбыла на СДМ у Лісабон з прэлатурай Opus Dei.

Па словах дзяўчыны ў інтэрв'ю Cope radio, яна больш за два гады амаль нічога не бачыла праз блізарукасць, "усё было размыта". У яе засталося толькі пяць працэнтаў зроку. Аднак у суботу пасля малітвы да Маці Божай Снежнай, апякункі СДМ, і прынясці Святой Камуніі да дзяўчыны раптоўна вярнуўся зрок, сцвярджае яна.

– Я сядзела на лаўцы (у Фацімскім санктуарыі) і плакала, бо прасіла аб аздараўленні, а гэта быў апошні дзень навэнны да Маці Божай Снежнай, урачыстасць якой адзначаецца 5 жніўня. Калі я расплюшчыла вочы, раптам усё стала выразна, ідэальна, – распавяла Хімена ў распаўсюджаным аўдыёзапісе.

– Падчас СДМ прасілі маладых людзей маліцца аб маім аздараўленні, і сёння я бачу выдатна. Я не ведаю, як гэта растлумачыць, – сказала дзяўчына. "Я шчаслівая, гэта мой новы дзень нараджэння!", – дадала Хімена.

*Паводле deon.pl*
*Пераклад* ***Марыны Сінкевіч***

# “Нас *кінулі* на грошы... *Задзяўбло* ўсё, *дастала*!..”

### *Ці можна ўжываць некадыфікаваную лексіку ў жывым маўленні?*

**Сённяшні выпуск моўнай старонкі прысвячаецца надзвычай важнай і неадназначнай праблеме: як мы мусім ставіцца да выкарыстання ў камунікацыі некадыфікаваных слоў, гэта значыць тых, якія не фіксуюцца ў слоўніках, знаходзяцца па-за межамі літаратурнай мовы? Ідэю нам падказала пастаянная чытачка “Каталіцкага Весніка” спадарыня Вера С. з Докшыцкага раёна, якая і раней звярталася з пытаннямі ў нашую моўную рубрыку.**

■ Юрась Бабіч, *кандыдат філалагічных навук*

Дык вось сп-ня Вера, у прыватнасці, піша: “Вельмі цікавы матэрыял прачытала ў газеце пра словы *варушняк, пацеха, пацешны*... І ў мяне з'явілася яшчэ пытанне: а ці можам мы сабе дазволіць у беларускай мове ўжываць словазлучэнні, напрыклад, *нас кінулі на грошы, мяне ўсё дастала, я з гэтым не замарочваюся* і г.д.? Мне здаецца, што культурны, інтэлігентны чалавек не павінен дазваляць сабе такой лексікі. Але, з іншага боку, я нярэдка знаходжу такія словы нават у нашых цэнтральных газетах... Дык як быць усё ж?”

Адразу хацелася б падзякаваць нашай шаноўнай чытачцы і непасрэдна за пытанне, і за добрае разуменне сучаснай моўнай сітуацыі. І прызнаем таксама наяўнасць праблемы з гэтым усім. Таму паспрабуем крыху разабрацца.

Заўважым, што гаворка ідзе пра выкарыстанне лексікі абмежаванага ўжытку выключна ў нефармальнай камунікацыі, найперш у вусным маўленні. Сучаснае грамадства існуе і развіваецца не ў апошнюю чаргу праз сацыяльныя кантакты ў самым шырокім сэнсе гэтага паняцця. Сродкі масавай інфармацыі ў такіх кантактах адыгрываюць вельмі важную ролю. І гэта нягледзячы на тое, што паступова зніжаецца колькасць друкаваных СМІ і, наадварот, няўхільна павялічваецца працэнт электронных рэсурсаў. Але мова тэкстаў і друкаваных, і электронных медыяў з'яўляецца і, несумненна, будзе і надалей з'яўляцца важным інструментам уздзеяння на рэцыпіента. Хаця б праз асаблівасці адмысловага афармлення паведамленняў, навінаў ды і любога іншага кантэнту.

Прывядзём тут некалькі дастаткова паказальных прыкладаў выкарыстання жаргоннай і прастамоўнай лексікі ў беларускіх друкаваных выданнях апошніх гадоў: *Дзяўчына з Мінска ўвогуле “**адгрэбла**” ні за што* (Чырвоная змена, 07.05.20); *...Мясцовы алкаголік пачаў **бузіць**... І ўчастковы паабяцаў разабрацца, арганізаваць **бузацёру** “першую камісію” для накіравання ў ЛПП* (Звязда, 31.03.20); *На самай справе цана тавару рэальна меншая – на тую частку камісійных, якую прадаўцы “**адшпільвалі**” банкірам. Толькі гаспадары **не замарочваюцца** такімі праблемамі. **Не замарочваецца** імі і жанчына з г.п. Падсвілле* (Веснік Глыбоччыны, 11.04.15); *Пакупнікі “**без замарочак**”, з радасцю набывалі такія дарагія тавары...* (Звязда, 05.02.20). Прастамоўі ў прыведзеных мікракантэкстах надзвычай выразна перадаюць сутнасць апісаных з'яў, хаця лексемы тут маюць розны семантычны характар.

І вось яшчэ надзвычай красамоўны фрагмент з газеты “Звязда” (22.04.20):

*– Раптам – стук у дзверы. – Хто там? – здзіўляецца гаспадар. – Дзед Мароз. – ?! (Першая думка – а нядрэнна было б, каб зайшоў – з падарункамі, каб дзяцей парадаваў... Другая – з якога **перапуду**?) – Ты не хлусіш? – пытаецца бацька? – **Век волі не відаць! Караці**, “**спаліўся**” Дзед – дзвярэй не адчынілі. І правільна зрабілі, бо нейкі **мутны** ён.* Тут для максімальна дакладнай перадачы эмацыянальна афарбаванага кантэксту ўжытыя элементы так званага “крымінальнага жаргону”. Наўрад ці нешта падобнае мы маглі б сабе ўявіць яшчэ гадоў дзесяць назад...

Але варта таксама звярнуць увагу на дастаткова відавочны новы трэнд, сутнасць якога ў выкарыстанні прастамоўяў і жарганізмаў для перадачы станоўчай канатацыі. Гэта стала заўважальна ў беларускім публіцыстычным дыскурсе ў апошнія гадоў сем-восем. Колькі прыкладаў: *“Сузор'е” **клёвых** педагогаў* (Чырвоная змена, 23.07.20 – пра педатрад студэнтаў, які працуе ў летніку); *...30 сакавіка даюць старт сумеснаму анлайн-праекту “**Клёвыя** канікулы”* (Звязда, 27.03.20); *Зрабіць **крута** – гэта ўнутраная матывацыя творчага чалавека* (Звязда, 30.03.19); *Яны максімальна **крута** і прафесійна падышлі да гэтага пытання...* (Звязда, 12.03.19); *У Мінску нядаўна хлопцы вырашылі **хайпануць** водгукаў запісам сваіх прыгод... Але, можа, прасцей абвясціць хібы знешнасці новым трэндам і **хайпануць** “лайкаў” заадно?* (Чырвоная змена, 04.01.18).

Так, сапраўды, лексемы *клёвы, крута, хайпануць* валодаюць здольнасцю надзвычай яскрава апісаць, перадаць пэўны факт ці стан. Іх унутраная форма, наяўнасць семы эмацыйнасці, семантычная ёмістасць даюць магчымасць у сціслай форме пераказаць досыць моцныя пазітыўныя ўражанні. Падобныя прастамоўныя і жаргонныя элементы становяцца па сутнасці сэнсава-сімвалічным ядром фразы, узмацняюць сваю сінтаксічную пазіцыю ў межах выказвання. Гэта прываблівае чытача, асабліва моладзевую аўдыторыю, для якой усё новае, нестандартнае, набліжанае да часткі іх уласнага лексікону з'яўляецца па-сапраўднаму цікавым і крэатыўным.

Дык як усё ж мы мусім на гэта рэагаваць? Нам варта зразумець, усвядоміць, што ў мове, у маўленні пастаянна адбываецца пэўная трансфармацыя, калі з'яўляюцца новыя канструкцыі і формы, якіх мы не можам ухваляць, але якія падпарадкоўваюцца агульным трэндам у жыцці ўсяго грамадства. Выкарыстоўваць іх у сваім маўленні ці не – індывідуальная справа кожнага носьбіта мовы. Але наўрад ці магчыма цалкам пазбегнуць іх ужывання. Тым больш што нават такія некадыфікаваныя лексемы ў нефармальнай камунікацыі (менавіта нефармальнай – падкрэслім гэта яшчэ раз!) дазваляюць больш дакладна, больш выразна, з неабходнай эмацыянальнай афарбоўкай апісаць тую ці іншую з'яву, той ці іншы факт. І баяцца гэтага не варта. Тым больш што гэта ў канчатковым выніку спрыяе павышэнню цікавасці да мовы, прываблівае, заахвочвае людзей, асабліва моладзь, гаварыць па-беларуску.

Разам з тым мы павінны памятаць, што выкарыстанне ў сваім маўленні жарганізмаў ці прастамоўяў з'яўляецца не правілам, а, хутчэй, выключэннем, абумоўленым канкрэтнай сітуацыяй маўлення: калі трэба максімальна даходліва і выразна, з высокай эмацыйнай напоўненасцю перадаць сутнасць нейкай падзеі. І ні ў якім разе не злоўжываць гэтым!

Таму, адказваючы на пытанне нашай шаноўнай чытачкі, ці можам мы сабе дазволіць казаць *нас кінулі на грошы, мяне ўсё дастала, я з гэтым не замарочваюся* канстатуем, што так, можам сабе дазволіць. Але пры ўмове, што гэта будзе дарэчы, што гэта будзе вымагацца канкрэтнай маўленчай сітуацыяй, дзе патрабуецца максімальная выразнасць і экспрэсія.

Спадзяёмся, што дадзены матэрыял крыху праліў святло на ўзнятую важную праблему выкарыстання ў маўленні некадыфікаванай лексікі. І памятайма, што кожны культурны, інтэлігентны чалавек не павінен гэтым злоўжываць.

## Капліца ў Віцебскай абласной клінічнай лякарні

**Святая Імша там цэлебруецца кожную трэцюю сераду месяца а 16.00.**

Па просьбе пацыентаў і індывідуальнай дамоўленасці са святаром святая Імша можа быць адпраўлена ў іншы дзень і час.
Капліца знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

***Кантакты:***
***+375 29 785-12-98 – кс. Генадзь***
***+375 29 597-32-01 – Марыя***



# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю ў св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:
***Газета “Каталіцкі Веснік” вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:
***Місевіч Віктар Мар'янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

*Рэдакцыя*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

Каталіцкі ВЕСНІК
№8 (149)
жнівень 2023 г.

# Пра старое і новае…

**Мысленне стэрэатыпамі – спрошчанымі вобразамі тых ці іншых бакоў рэчаіснасці, заснаванымі на частковых або нават фальшывых ведах пра яе – стварае сур’ёзную праблему для ўзаемнага разумення, таму што не прадугледжвае ўсяго багацця навакольнага свету і замыкае на іншыя погляды, якія не маюць рацыі ў існаванні.**



Характэрнымі рысамі такога шаблоннага падыходу з’яўляюцца празмернае абагульненне, своеасаблівае наклейванне этыкетак на пэўныя групы людзей, прафесіі, нацыянальнасці і г. д. (“усе мужыкі – казлы”, “усе бабы – сцервы”, “усе цыгане – злодзеі”, “усе артысты – распуснікі” і г. д.) Злоўжыванне паняццямі “заўсёды”, “ніколі” і г.д. (“усё новае заўсёды добрае” і адпаведна – “усё старое заўсёды дрэннае”, ці “выбар ёсць заўсёды”).

А на самай справе, ці сапраўды “выбар ёсць заўсёды”? Цяжка запярэчыць факту, што бацькоў, братоў, сясцёр, месца і час нараджэння мы проста не ў стане выбраць. На выбарах у Савецкім Саюзе на самай справе нікога не выбіралі, а ў штодзённым жыцці таксама выбар зводзіцца да таго, што або прымаеш тое, што існуе ў адным экзэмпляры, або не, згаджаешся на зло, ці не. Сапраўды, ці можна выбраць ежу, калі маеш толькі адзін нейкі прадукт? Ці можна выбраць вопратку на дажджлівае надвор’е, калі маеш толькі адзіны плашч? Нарэшце, ці можна выбраць, у які касцёл і на якую Імшу пайсці ў нядзелю, калі даступны толькі адзін касцёл з адной Імшой? Можна, рызыкуючы здароўем цела або душы, застацца галодным, змокнуць пад дажджом і ўвогуле не прысутнічаць на нядзельнай святой Імшы. Але ці можна назваць сапраўдным выбарам сітуацыю, калі трэба вырашаць і парушаць закон (Божы, маральны, грамадскі) ці не, ісці насуперак сумленню ці не, згадзіцца на зло ці не?.. Бо тыя, хто тлумачыць свае ўчынкі адсутнасцю выбару, часцей за ўсё якраз імкнуцца пазбегнуць нейкага рэальнага ці ўяўнага зла, але неадпаведнымі сродкамі. А калі замест таго, каб атрымаць добрую параду, як лепш вырашыць складаную сітуацыю, чуюць часта толькі сухую фразу – “выбар ёсць заўсёды”, якая гучыць як асуджэнне і, нібы сякера, адсякае магчымасць далейшага дыялогу.

У рэчаіснасці вельмі часта наяўнасць выбару азначае толькі тое, што няма прымусу выбіраць дабро, а не тое, што сапраўды кожная справа мае шмат вырашэнняў. Часам так, а часам не. Ёсць жа памяшканні толькі з аднымі дзвярыма, і тыя часам замкнёныя… Як кажа адна польская прымаўка: “Калі не маеш таго, што любіш, любіш тое, што маеш.” Вось такі выбар.

Падобна выглядае справа адносна думкі, што ўсё новае – заўсёды добрае або лепшае, чым старое. Аднак народная расійская мудрасць сцвярджае, што “стары сябра лепшы, чым два новыя…” А які вопытны пілігрым вырушыць у шлях у новым абутку? Яшчэ невядома, як ён сябе праявіць, і, можа, сатрэ ногі або парвецца на другі ці трэці дзень… Можа і не, але гэта трэба спачатку праверыць на малых адлегласцях, а не падчас вялікага падарожжа. Але тады абутак ужо не будзе новым…

Так, усё старое некалі было новым, але яго вартасць у тым, што яно вытрымала выпрабаванне часам і захавала свае асноўныя якасці, бо тое, што не вытрымала, даўно натуральным чынам адышло ў нябыт. Лацінскае слова “novus” азначае не толькі “свежы”, “якога не было дагэтуль”, але і “апошні”. “Novissimus locus” – самае апошняе месца сам Пан Езус узгадвае як “найгоршае”. Новы – не сінонім “добрага” або “лепшага”.

Не сакрэт, што ў **апошнія дзесяцігоддзі ў Касцёле існуе вельмі прыкрая спрэчка паміж прыхільнікамі старой пабожнасці і адэптамі новых формаў.**

Паўсталі ўзаемныя стэрэатыпы: “традыцыяналісты – значыць, фармалісты, крывадушнікі, бездухоўныя нявольнікі аджылых формаў, рэтраграды, замкнутыя на жыццё, вораг духоўнага адраджэння і г. д.” – з боку тых, хто лічыць сябе носьбітам сапраўднай жывой духоўнасці, адпаведнай сучаснаму чалавеку. У адказ чуюць: “мадэрністы – здраднікі здаровай хрысціянскай навукі і шматвяковай Традыцыі Касцёла, ваўкі ў авечых шкурах, анархісты, для якіх няма нічога святога”. І, што дзіўна, і адны, і другія абвінавачваюць іншы бок у адсутнасці духоўнай глыбіні, у празмернай пачуццёвасці, тэатральнасці, знешніх эфектах… Дзе тут праўда, як ва ўсім разабрацца?

Па-першае, **катэгарычна нельга наклейваць ярлыкі на падставе таго, што хтосьці аддае перавагу літургіі старой або новай.**

Хоць, аб’ектыўна кажучы, прыхільнікі літургічных формаў, якія прайшлі праверку стагоддзямі і вялікай колькасці хрысціян плённа дапамаглі ў імкненні да святасці, маюць больш права сумнявацца ў падобнай эфектыўнасці новых літургічных тэндэнцый, асабліва беручы пад увагу факт, што за апошнія дзесяцігоддзі, насуперак чаканаму адраджэнню веры, у свеце назіраецца масавы адыход ад хрысціянскіх каранёў і каштоўнасцяў. Якая роля ў гэтым нядаўна праведзеных літургічных рэформаў? Як бы свет выглядаў, калі б Касцёл задаволіўся рэформай 1962 г.? Толькі Бог ведае. Але зараз ці трэба тое высвятляць? Бо да Бога нікога гэта не наблізіць, а свет больш пабожным не стане, толькі наадварот: гледзячы на спрэчкі паміж прадстаўнікамі адной і той жа канфесіі, яшчэ больш знеахвоціцца да хрысціянства. Усе слабыя людзі: хтосьці абмежаваны асяроддзем, жыццёвым вопытам, культурным узроўнем, у кагосьці нервы здаюць ад пастаянных праследаў, абцяжарванняў, недаверу. Трэба з Божай дапамогай пазбягаць шаблонаў, асуджэнняў, імкнуцца разумець іншага, ставячы сябе на яго месца. Пры гэтым памятаць: нельга спісваць на сметнік гісторыі як непрыдатную рэч тое, што яшчэ хоць камусьці дапамагае падтрымліваць сувязь з Богам. І зважаць на тое, каб новыя формы пабожнасці не нагадвалі тых сучасных рэчаў, якія наўмысна робяць нізкаякаснымі, каб іх часцей мянялі, прыносячы прыбытак вытворцам.

Новае павінна прайсці праверку часам, а не навязвацца штучна, коштам бяздушнага адкідвання ўсяго, што старое, праз нейкую схаваную боязь, каб старое часам не аказалася больш якасным.

Трэба, каб у вернікаў быў сапраўдны выбар, але яго крытэрыямі павінна быць не адпаведнасць сучаснай модзе і стэрэатыпам, а вернасць Хрыстовай навуцы, якая актуальная ва ўсе часы для ўсіх народаў.

*Айцец Міхал Ермашкевіч OP*

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жанна Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф’я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Дана Алексіна** *(Глыбокае)*, **Ірына Грыцкевіч** *(Сарокі)*, **Ніна Гайдзель** *(Яя)*, **Соф’я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Яніна Маркоўская** *(Мінск)*, **Леакадзія Пазняк** *(Прусы)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Баляслава Немыцкая** *(Паставы)*, **Ніна Голенькая** *(Віцебск)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Мікалай Рагожкін** *(Новы Пагост)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Зінаіда Рамашка** *(Мінск)*, **Даната Вараньяко** *(Друя)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Алена Емельянава** *(Дунілавічы)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Соф’я Салодкая** *(Гірстуны)*, **Эма Роўда** *(Навалукомль)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Марыя Вішнеўская** *(Мёры)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Аліна Пятрова** *(Мёры)*, **Даната Сярогіна** *(Глыбокае)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Святлана Місевіч** *(Глыбокае)*, **с. Таццяна Данч** *(Варапаева)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Ян Кіслы** *(Швакшты)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Чэслаў Юршэвіч** *(Мількі)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Баляслава Немыцкая** *(Паставы)*, **Эльвіра Богуш** *(Глінішчына)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **рух “Маці ў малітве”** *(Відзы)*, **Алена Канчанін** *(Нарач)*, **Алена Балай** *(Мосар)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Тэрэза Рулевіч** *(Браслаў)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Часлава Паршута** *(Павяцце)*, **Елізавета Лебядзева** *(Бягомль)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Тэрэза Дулінская** *(Вазоўнікі)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Ганна Стальмачонак** *(Кавалішкі)*, **Антон Жменчуроўскі** *(Шаркаўшчына)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Яніна Бруйко** *(Пашкі)*, **Марыя Рачыцкая** *(Якубова)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Алена Карневіч** *(Ніўнае)*, **Ада Шумская** *(Навапалацк)*, **Ніна Марунько** *(Навалукомль)*, **Зінаіда Рамашка** *(Мінск)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб’е)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Соф’я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Тэрэза Балтромун** *(Бастуны)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Іван Кулік** *(Мікелеўшчына)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Альдона Макоўская** *(Відзы)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***

Пахвалёны Езус Хрысту.
Дарагі дружа, вітаем цябе
ў новым нумары
"Пазнавайкі".




**Жнівень** – месяц, багаты на розныя падзеі: гэта і пілігрымкі да цудадзейных абразоў, і канікулы з Богам і парафіяда ў Віцебскай дыяцэзіі.

Каталіцкі Касцёл у жніўні святкуе дзве ўрачыстасці: **Перамяненне Пана на гары Табор і Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Пра ўнебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі прапануем паразважаць сёння разам.

Дагмат Унебаўзяцця, абвешчаны ў 1950 г., быў часткаю праграмы Папы Пія XII, які ўсім сэрцам клапаціўся пра распаўсюджванне Марынай пабожнасці.
Унебаўзяцце азначае, што Найсвяцейшая Панна Марыя не памерла, а разам з душой і целам была ўзнятая ў Нябеснае Валадарства.



Паводле адной распаўсюджанай легенды, Марыя так моцна заснула, так што апосталы, якія незадоўга да гэтага цудоўным Божым провідам сабраліся з усіх куткоў Рымскай імперыі, прынялі гэты сон за смерць і пахавалі яе ў садзе Гефсіманія. Адсюль, дарэчы, паходзіць руская назва свята – Успение. Сярод апосталаў тады не было толькі няверната Тамаша. Ён прыйшоў праз тры дні пасля пахавання і папрасіў адкрыць магілу, каб развітацца з Божай Маці. Але ў магіле цела ўжо не было. Затое знайшлося шмат прыгожых, прыемна і моцна пахнучых кветак.

**1 ЗАДАННЕ**

Падчас Імшы ва ўрачыстаць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі чытаецца ўрывак з Евангелля ад Лукі 1, 39–56.Прачытай яго і адкажы на пытанні крыжаванкі і даведаешся, як у народзе называюць Маці Божую ў гэтую ўрачыстасць




1. У чый дом увайшла Марыя?
2. Каго прывітала Марыя?
3. Што адбылося з дзіцяткам ва ўлонні Альжбеты падчас прывітання?
4. Устаў прапушчанае слова: "... мне гэта, што Маці Пана майго прыйшла да мяне?"
5. Як назвала Альжбета Марыю?
6. Дзіцятка ўзварухнулася ад ...
7. Устаў прапушчанае слова: "І ... тая, якая паверыла, што споўніцца сказанае Ей Панам"

**2 ЗАДАННЕ**

Прайдзі лабірынт і дапамажы Марыі прыйсці да Альжбеты.



**3 ЗАДАННЕ**

Падчас урачыстасці Унебаўзяцця ў касцёле асвячаюцца зёлкі, збожжа, а таксама першыя плады садавіны і агародніны.
Размалюй ілюстрацыю з букетам палявых кветак.



**4 ЗАДАННЕ**

Хутка пралятае лета і надыходзіць час для вучобы.Прапануем табе малітву перад навукай. Прачытай яе, устаў прапушчаныя словы, якія падыходзяць па сэнсу.

## Малітва перад навукай

О Добры ..., прасвятлі мяне Духам Тваім ...., які дае розум і ўмацоўвае духоўныя ...., каб я ..... спасцігаў усе навукі і рос Табе, .... майму, на славу, бацькам і ..... маім на радасць і ўцеху, Касцёлу і .... на дабро і славу. Амэн.

*Божа, сілы, ўважліва, Творцу, Бацькаўшчыне, Святым, настаўнікам.*

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Філіпенка***

# Мінскі тэалагічны каледж прапануе паслядыпломную адукацыю для выпускнікоў



Мінскі тэалагічны каледж імя святога Яна Хрысціцеля аб'яўляе набор выпускнікоў каледжа (2013 – 2023) для паслядыпломнай адукацыі на 2023/2024 навучальны год.

Паслядыпломная адукацыя дае магчымасць атрымання наступных кваліфікацый:

- *куратар пілігрымак;*
- *касцельны сурдаперакладчык;*
- *супрацоўнік каталіцкіх сродкаў масавай камунікацыі;*
- *кантар;*
- *катэхет.*

Пасля заканчэння курса паслядыпломнай адукацыі навучэнцы атрымліваюць сертыфікат (дадатак да дыплома) з пазначэннем прысвоенай ім кваліфікацыі.

Анлайн-рэгістрацыя кандыдатаў для паслядыпломнай адукацыі – да 25 верасня

Тэлефон для даведак: **+ 375 (29) 616 08 72**

***e-mail: kaledzminsk@gmail.com***

*Catholic.by*

# Фільм "Цуд"

**Што такое цуд? Вікіпедыя падае некалькі значэнняў. Адно з іх – "незвычайная падзея, якую цяжка растлумачыць. Падзея, што супярэчыць натуральнаму ходу рэчаў, здзіўляе, захапляе".**

У лістападзе 2017 года ў свет выйшла кінастужка "Цуд". Гэта экранізацыя аднайменнай кнігі амерыканкі Р. Дж. Паласіа. Сама кніга мела вялікі поспех і атрымала статус сапраўднага бестселеру.

Аўгуст Пулман (Огі) – вучань пятага класа. Ён, як і іншыя дзеці яго ўзросту, любіць гуляць на двары і ў камп'ютарныя гульні, ведае ўсіх герояў знакамітага фільма "Зорныя войны", гуляе з сабакам, марыць стаць касманаўтам, сварыцца і мірыцца са сваёй сястрой.

Але адразу пасля нараджэння высветлілася, што Огі мае незвычайнае генетычнае захворванне. Хлопчык перанёс 27 аперацый, у яго своеасаблівым чынам дэфармаваны твар. Гэты хлопчык павінен пайсці ў звычайную школу, сустрэцца і камунікаваць з іншымі дзецьмі, аднакласнікамі і настаўнікамі.

На першы погляд, здаецца, што "Цуд" – кінастужка пра дзіўнага хлопчыка, якога не прымае грамадства, пра маленькага чалавека, які стаў адзінокім у натоўпе, пра дзяцей, якія могуць быць вельмі жорсткімі, пра прыроду школьнага булінгу. Фільм паказвае, як важна прымаць кожнага чалавека, нягледзячы на знешнасць і яго здольнасці.

Калі паглядзець на стужку з іншага ракурсу, становіцца зразумела, што "Цуд" – гэта не проста хлопчык з непрыгожым тварам. Сапраўдных цудаў у фільме шмат.

Цуд – гэта сям'я Огі: мама, тата, сястра. Быць бацькамі асаблівага дзіцяці – гэта пакліканне. Падараваць дзіцяці сваю любоў, пяшчоту, час і сілы, нават адмовіцца ад мары – гэта пакліканне. Сям'я хлопчыка, сустракаючыся з выпрабаваннямі, знаходзіць сілы зберагчы добрыя адносіны, узаемаразуменне і простыя радасці штодзённага жыцця.

Цуды адбываюцца і з аднакласнікамі Огі. Гэта, перш за ўсё, цуд перамянення сэрцаў. Напачатку хлопчыкі і дзяўчынкі стасуюцца толькі таму, што іх просіць дырэктар школы. Гэтыя стасункі былі напоўненыя непаразуменнем, дзіцячымі абразамі, здзекамі. Але з часам прыйшло асэнсаванне: не важна, як выглядае Аўгуст звонку, важна, што ён прыгожы знутры.




Акрамя аповеду пра сям'ю Пулман, у кінастужцы адлюстроўваецца жыццё падлеткаў – вучняў звычайнай амерыканскай школы з незвычайнымі гісторыямі жыцця, у якіх таксама адбываюцца цуды.

Трэба зазначыць, што галоўныя ролі ў фільме выконваюць выдатныя акцёры. Бацькі Огі – вядомыя Оўэн Уілсон і Джулія Робертс. Ролю Аўгуста выконвае Джейкаб Трамбле – адзінаццацігадовы акцёр, які ўдзельнічаў у больш як дванаццаці кінастужках.

Увесь фільм напоўнены дабрынёй і шчырасцю, якіх так не хапае сучаснаму чалавеку. А трапныя цытаты можна браць у штодзённасць, каб памятаць, што цуд – гэта жыццё кожнага з нас.

*Вікторыя Філіпенка*

# Каляндар на верасень

**8 верасня – свята Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі.**

**9 верасня – успамін св. Пятра Клявэра, святара.**

**12 верасня – успамін Найсвяцейшага Імя Марыі.**

**13 верасня – успамін св. Яна Златавуснага (Хрызастома), біскупа і доктара Касцёла.**

**14 верасня – свята Узвышэння Святога Крыжа.**

**15 верасня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Балеснай.**

**16 верасня – успамін св. Карнэлія – Папы, і Кіпрыяна – біскупа, – мучанікаў.**

**19 верасня – успамін св. Януарыя, біскупа і мучаніка.**

**20 верасня – успамін св. Андрэя Кім Тэгона, святара, і Паўла Чон Хасана і паплечнікаў – мучанікаў.**

**21 верасня – свята св. Мацвея, апостала і евангеліста.**

**23 верасня – успамін св. Піа з П'етрэльчыны, святара.**

**26 верасня – успамін св. Космы і Дам'яна, мучанікаў.**

**27 верасня – успамін св. Вінцэнта дэ Поля, святара.**

**28 верасня – успамін св. Вацлава, мучаніка, успамін св. Лаўрэнцыя Руіса і паплечнікаў, мучанікаў з Філіпінаў.**

**29 верасня – свята святых Арханёлаў Міхала, Габрыэля, Рафала.**

**30 верасня – успамін св. Гераніма, святара і доктара Касцёла.**

**Больш навін, здымкаў і відэа на нашым сайце**



**Catholicnews.by**

# Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам A1 ці іншага мабільнага апэратара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – А; 2 – А; 3 – А; 4 – В; 5 – В; 6 – Б; 7 – Б; 8 –Б; 9 – А; 10 – В

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 4157

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2300 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 28.08.2023 г. у 7.55

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь